
Ваенная біяграфія➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Віктар Ярмалковіч➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3169) Год LXII Беласток, 5 лютага 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Спеўнік і кружэлка


«Жэмэрвы»

**Аб'яднанне Музей малой айчыны ў Студзіводах нядаўна выдала спеўнік з кампакт-дыскам «Мы тое гралі і співалі», падрыхтаваны Студыяй фальклору падляшскіх беларусаў «Жэмэрва». Гэта ўжо трынаццаты кампакт-дыск, падрыхтаваны Студыяй. З гэтай нагоды ў бары «Анна» ў Бельску-Падляшскім 22 студзеня адбылася яго прэзентацыя. На новай кружэлцы запісаны даўнія пазаабрадавыя песні, якія ў асноўным спявае «Жэмэрва», і некалькі архіўных твораў інструментальнай музыкі ў выкананні колішніх вясковых музыкантаў.**

Мерапрыемства пачалося з калядавання, паколькі спатканне адбывалася ў святочны перыяд. Спачатку калядаваў калектыў «Жэмэрва», затым усе запрошаныя калектывы. Дарылі яны падарункі гаспадарам сустрэчы — старшыні аб'яднання Музей малой айчыны Дарафею Фіёніку і музычнаму кіраўніку «Жэмэрвы» Анне Фіёнік. Усё адбывалася ў прысутнасці шматлікай публікі, сярод якой прысутнічалі бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, гарадскія радныя і былыя спевакі «Жэмэрвы», якія пазней спявалі разам з цяперашнім складам калектыву.

— Калектыў «Жэмэрва» створаны быў у 2003 годзе. На працягу 13 гадоў праз наш калектыў прайшло каля 50 чалавек. Сёння я радуюся, што бачу дзяўчат, якія раней у нас спявалі, — сказала нязменная кіраўнік калектыву Анна Фіёнік.

— Асаблівасць нававыдадзенага дыска заключаецца ў тым, што змяшчаецца на ім колішняя вясельная музыка, запісаная мясцовымі музыкантамі ў 1981 годзе. На ранейшых кружэлках мы прэзентавалі абрадавыя песні, а тут змешчаны таксама арыгінальныя пазаабрадавыя фальклорныя творы. У спеўніку мы змясцілі словы песень, запісаныя ў розных вёсках. Гэтыя песні паляпшалі настрой у нашых продкаў і з'яўляюцца прапановай для моладзі ў якасці альтэрнатывы да іншых яе зацікаўленняў, — сказаў Дарафей Фіёнік, арганізатар сустрэчы ў бары «Анна».

— Я раней спявала ў «Жэмэрве» з моманту стварэння калектыву. Мой род з Пашкоўшчыны. Ад маёй сваячкі Надзеі Сахарчук з Малінік мы запісалі многа песень, каб захаваць іх ад забыцця. Люблю заспяваць фальклорную песню і цяпер, хачу зашчапіць любоў да фальклору маім дзеткам, — сказала Паўліна Майстровіч (раней Глінка), якая прыехала на сустрэчу са сваім сынком (малыш з цікаўнасцю глядзеў выступы і слухаў песні).

Караліна Ігнацюк таксама доўга выступала з «Жэмэрвой». Супольна праведзены з калектывам час застанецца для яе незабыўным. Пазней спявала яна неапрацаваны фальклор, калі спатыкалася ў крузе выпускніц «Жэмэрвы».

— Ад пачатку «Жэмэрва» робіць стаўку на абрадавыя песні — калядныя, вясенныя, летнія, вясельныя. У іх напевах і словах заключаецца душа нашай зямлі, запісана яе тоеснасць. Мілевымі камянямі ў разуменні абрадавых песень сталі для студыі «Жэмэрвы» сустрэчы «Там по маёвуй росі», якія пачалі мы арганізаваць з 2004 года. Сустрэчы ніколі не адбываліся і не адбываюцца без «Жэмэрвы». Гэта для калектыву вялікая школа традыцыі, месца, дзе можна праўдзіва пераказаць і перажыць песню, карагод, музыку, эмоцыі — на вуліцы, у полі, над рэчкай, на панадворку... З часам «Жэмэрва» сягала штораз больш да пазаабрадавых песень, выконваных падчас сустрэч, вечарынак, у перапынках паміж танцамі. І так дайшлі мы да выдання кампакт-дыска, — напісалі ў нававыдадзеным спеўніку Анна і Дарафей Фіёнікі. Кружэлка паўстала на працягу 2016 года.

Пасля калядак перад публікай запрэзентавалася інструментальная капэла «Жэмэрвы», створаная з дапамогай вядомага на ўсю Польшчу народнага скрыпача з Познані Мацея Філіпчука. Капэлу складаюць Дарафей Фіёнік — акардэон; тры скрыпачкі — Ніка Юрчук, Віёля Боцюк і Уля Алексяк; Марыя Гулюта з Кобрына — цымбалы і Мацей Рацінеўскі — барабан. Капэла выканала мелодыі, пад гукі якіх моладзь танцавала калісь на Бельшчыне і Гайнаўшчыне. На сустрэчы танцавала моладзь з «Жэмэрвы» і «Дараносіцы» з Хмелева. Дарафей Фіёнік паінфармаваў сабраных, што нядаўна памёр стагадовы скрыпач са Збуча Пётр Юшкевіч, які 7 мая 2016 года зайграў яшчэ з капэлай «Жэмэрвы» на сваім панадворку. Здымак з гэтай падзеі змешчаны ў нававыдадзеным спеўніку. Капэла «Жэмэрвы» зайграла польку Пятра Юшкевіча, запісаную на кружэлцы, і некалькі іншых яго твораў. Нававыдадзены кампакт-дыск прысвечаны памяці пакойнага Пятра Юшкевіча, вялікага сябра «Жэмэрвы» і Студзіводскага музея.

— Я вучылася іграць на скрыпцы ў Музычнай школе першай ступені ў Бельску-Падляшскім, а ў рамках капэлы «Жэмэрвы» ўдасканальваю ўмеласці, але таксама спяваю, — заявіла Ніка Юрчук, якая нядаўна атрымала стыпендыю Маршалка Падляшскага ваяводства.

Перад сабранымі ўдала заспявала Лідзія Маліноўская, салістка калектыву беларускай песні «Маланка», а акампанемент на гуслях саставіў ёй музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук.

— «Маланка» выконвае апрацаваныя народныя песні, але мне падабаецца таксама неапрацаваны фальклор, які выконвалі нашы продкі. Састаўляе ён рэпертуар «Жэмэрвы», — заявіла Лідзія Маліноўская.

Сяргей Лукашук сказаў сабраным, што па ўзоры гусляў са Студзіводскага музея, якія туды падарылі госці, стаў выконваць свае гуслі. Двое гусляў сваёй вытворчасці падарыў ён у Кобрын, а чарговыя двое яго дачка завезла ў Брусель, дзе вучыцца ў Еўрапейскай музычнай школе. Паказаў ён перад сабранымі сваё гусьлярскае майстэрства. У 1981 годзе, будучы дырэктарам Бельскага дома культуры, Сяргей Лукашук стаў запісваць інструментальную музыку Бельшчыны ў выкананні вясковых музыкантаў.

— Запісаў я скрыпача з Рудутаў Віктара Валкавыцкага, які таксама сам выконваў скрыпкі. Запісаў ігру Уладзіміра Мураўскага з Орлі, Лявона Дзмітрука з Рыгораўцаў і Адольфа Жукоўскага з Лубіна-Рудолтаў, — пералічыў Сяргей Лукашук, якога два запісы змешчаны ў навейшым кампакт-дыску — «Полька з Рудутаў», якую ў 1981 годзе выканаў сам Віктар Валкавыцкі і «Марш вясельны», які ў гэтым жа годзе зайгралі Уладзімір Мураўскі на гармоніі-трохрадцы і Віктар Валкавыцкі на скрыпцы.

— Тут у бары «Анна», які вядзе мая сям'я, адбываліся ўжо сустрэчы, спевы і танцы, якія ладзіў Студзіводскі музей і калектыў «Жэмэрва». Я ў пачатку дзейнасці «Жэмэрвы» вучыўся ў вышэйшай навучальнай установе і не ангажаваўся ў дзейнасць калектыву. Зараз я з'яўляюся менеджарам «Жэмэрвы» і суарганізатарам сённяшняга мерапрыемства, — сказаў бельскі радны і дзеяч Студзіводскага музея Тамаш Суліма.

Выступленне калектыву «Жэмэрва» ўзнагароджвалася бурнымі апладысментамі. Удалым атрымалася супольнае спяванне сённяшніх членаў «Жэмэрвы» і былых яе спевакоў. Пазней запрэзентаваліся замежныя беларускія калектывы, якія сябруюць з калектывам «Жэмэрва» — «Хмелеўскія валацугі» і «Дараносіца» з Хмелева, «Хаціславяне» з Хаціслаўя і «Гаманіна» студэнцкага клуба Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі ў Мінску. З Кобрына прыбылі Алена Букач і Наталля Буневіч — музычныя кіраўнікі калектываў «Зараніца» і «Таўкачыкі». Замежныя госці і мясцовая публіка захапляліся спевам і музыкай «Жэмэрвы», з прызнаннем выказваліся аб збіранні і захоўванні яе членамі фальклору беларусаў Падляшша і Палесся. Калектывы з Беларусі карыстаюцца нават некаторымі абрадамі, запісанымі Студыяй фальклору «Жэмэрва». Падчас фальклорнага мерапрыемства «Хмелеўсія валацугі» запрэзентавалі абрад з «хрыстком», невядомы ў Беларусі, раздаючы галінкі з засушанымі дубовымі лісткамі гаспадарам сустрэчы і публіцы. Падчас святкавання Хрышчэння Гасподняга «Жэмэрва» і госці з Рэспублікі Беларусь калядавалі і раздавалі «хрысткі» жыхарам Парцава і Рудутаў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

*III месца ў XIX конкурсе «Дэбют»*

*Наталля ВАСЬКО*

## Час

Час...
Усё і так ляціць далей.
Не глядзіць ніколі назад.
Пра нікога не думае,
не думае пра нас,
пра мяне,
пра цябе...

Мы...
Усе і так кідаем мары.
Якія для нас час хавае,
якія хавае час,
гэты час,
гэты час...

Час...
Усё і так ходзіць вакол.
Далей бяжыць уперад.
Але ўсіх ён мяняе,
ён мяняе нас,
і мяне,
і цябе...

Мы...
Усе і так жывем далей.
Ніхто не ведае,
не ведае пра час,
пра час,
пра нас...

## Гэта чалавек сказаў і прыдумаў

Хто сказаў, што
два і два гэта чатыры?
І хто прыдумаў, што
ўсё падае на зямлю?

Хто сказаў, што
тут вырасце кветка?
І хто прыдумаў, што
квас у ваду трэба ліць?

Хто сказаў, што
тут Азія, а там Амерыка?
І хто прыдумаў, што
ў Інтэрнэце ўсё ёсць?

Хто сказаў, што
бліся пад Грунвальдам?
І хто прыдумаў, што
гэты тэкст гэта верш?

Чаму ўсе яму вераць?
Хто такі мудры чалавек?
Як яго зваць?
Дзе яго знайсці?

## Восень

Закрываю вочы і ўжо бачу восень
— восень і яе сумныя колеры.
Сама думка прыносіць хваробу
— цяжкую і доўгую як лес.

З ветрам ідуць хмары і канікулы
— апошнія мілыя ўспаміны.
Прыйшоў час самотных гульняў
— цёмных наракаманіяў і слёз.

І толькі тэлевізар ясны ў жыцці
— сонца даўно за цёмнай хмарай.
І толькі чую гадзіннік на сцяне
— нават сэрцу не хочацца біць.

Цяпер толькі Зямля круціцца
— рэшта ўжо шчасліва памерла.
Няма як гаварыць і пісаць далей
— мозг і язык пакруціла восень.





# Пра яйкі і ахвярных курэй

Пакуль лепшыя мысляры-рэфарматары, навукоўцы і практыкі-палітыкі ламаюць дзіды наконт гаспадарчых мадэлей і спосабаў развіцця эканомікі, спосаб выхаду з крызісу вынайшаў кіраўнік сонечнага Узбекістана. Новаспечаны прэзідэнт гэтай азіяцкай краіны прыдумаў просты натуральны спосаб. Не, сонца тут зусім ні пры чым, навошта яно ўвогуле, калі ёсць такія зямныя святыні. Дык вось прэзідэнт з цяжка, даруй Божа, вымоўным прозвішчам Шаўкат Мірзіееў на сходзе ў яшчэ цяжэй вымоўным Каракалпакстане абвясціў, што кожная сям'я Узбекістана, якая жыве ў сельскай мясцовасці, павінна вырошчваць і трымаць у хатняй гаспадарцы па 100 курэй. Менавіта па 100 — такая вось сакральная лічба. І далей простая як аглобля матэматыка: маўляў, калі ў кожнай такой сям'і будзе 100 курэй, то яны знясуць мінімум 50 яек. Калі 10 яек сям'я з'есць сама, то яшчэ 40 яна зможа прадаць і такім чынам зарабіць — падсумаваў вынаходлівы Мірзіееў. Тады і не будзе малазабяспечаных сем'яў. Вось такі геніяльны ўзбекскі „скачок тыгра", новы „шоўкавы шлях" ад новага правадыра нацыі Шаўката Мірзіеева. Шлях, які павінен вывесці бедных і няшчасных ва ўсіх сэнсах узбекаў з галечы. Але па ўсім відаць, разбіраецца, прабачце, гэты новы правадыр у сельскай гаспадарцы, як свіння ў апельсінах. Узбекістан, канешне, вялікая па тэрыторыі краіна, але сумняваюся, што падворкі ў бедных сялян такія, што там можна трымаць ажно 100 курэй, ды яшчэ ж некалькі пеўняў трэба да іх. А больш ста вялікіх птушак — гэта немалая ўжо гаспадарка, нават калі кэдыты дзяржава дасць. А па-другое, каб атрымаць 50 яек, скажам у тыдзень, зусім непатрэбная такая колькасць нясушак. Дастаткова і пару дзясяткаў хатніх птушак.

Акрамя развядзення курэй, Мірзіееў заявіў яшчэ, што трэба развіваць яшчэ дробнае прадпрымальніцтва. Тэзіс абсалютна слушны, але, на жаль, не расшыфраваны. Можа гараджанам загадаюць галубоў разводзіць? Сказана толькі кантрольным органам не перашкаджаць працы прадпрымальнікаў. Але ж у іх — у гэтых органаў прырода такая — яны ж нічога акрамя „кантролю" — чытай экспрапрыяцыі не ўмеюць. Калі ж такое разуменне малога бізнесу як з курамі, то таталітарная карымаўская спадчына ва Узбекістане будзе закансервавана яшчэ надоўга. І будзе як яшчэ ў адной казачнай краіне: „Только взялся за яйца — масла пропала!".

У Беларусі ж ужо ад некаторага часу пайшлі звыклым „правераным" бальшавіцкім шляхам. Калі патрэбныя яйкі — трэба душыць і рэзаць курэй, што нясуць гэтыя залатыя яйкі. На мінулым тыдні стала вядома, што арыштаваныя чарговыя дзесяць бізнесоўцаў, сярод якіх ёсць і вельмі вядомыя асобы. Схема адпрацаваная і простая — падрыхтаваны кампрамат, выклік, арышт. Потым бізнесовец мусіць аддаць усё, што напрацаваў гадамі і нават дзесяцігоддзямі, пасля чаго мае шанцы адразу выйсці на свабоду, дзе ўжо разгулявецца як цяля на вяроўцы. Не маю ані кроплі зларадніцтва ў дачыненні да гэтай праслойкі прадпрымальнікаў, але і спачування да гэтых „ахвярных курэй" мала. Бо гэта яны, замест таго, каб дапамагаць грамадзянскай супольнасці, грамадска-палітычным структурам яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, у пачатку 2000-х гадоў, калі сітуацыя ў краіне не выглядала крытычна, смяяліся з рамантыкаў-змагароў і казалі, што лепш будуць „рабіць грошы". Яны не дапамагалі такім бізнесоўцам, як Андрэй Клімаў, Уладзімір Кудзінаў, Мікалай Аўтуховіч, якіх рэпрэсавалі паводле палітычных матываў. А было зразумела яшчэ тады, што чарга дойдзе да ўсіх. І вось яна заканамерна дайшла. Не ведаю як з салідарнасцю ў бізнес-супольнасці, але мне здаецца, што гэтыя людзі зараз засталіся сам насам з дзяржавай. Тое самае і з дробнымі і сярэднімі прадпрымальнікамі, якія апошнія гады знішчаюцца як клас. Яны таксама раней казалі: „Мы на свой кавалак хлеба заўсёды заробім". Для дастаткова разумных людзей — наіўнасць недаравальная. „Нэп" дзевяностых гадоў скончыўся. Скончыўся разам з вялікімі і халяўнымі расейскімі крэдытамі. І наступіў час калектыўнай адказнасці. За ўсё, што зрабілі, а галоўнае — за тое, чаго не зрабілі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Выхадкі падсвядомасці

Выціснанне соку з лімона з'яўляецца жорсткім актам, больш жорсткае — выціснанне сокаў з падсвядомасці. Папраўдзе пасля, як і з лімона, застаецца раздробненая на шматкі істота чалавека, але ж якая збалелая, таму што ўсведамляючая сябе самую.

Хваля жыцця мае ўзыходную і зыходную фазы — я мог прывыкнуць да гэтага, адчуваючы, пакутуючы, выпрабоўваючы цяжкасці, прыродныя і бытавыя падзенні. Я не ведаю толькі, калі адбываецца жыццёвы рэгрэс, дык мне здаецца, што гэта незваротны працэс. Але з кожным падзеннем неяк падымаюся — татальна здзіўлены. Утойваецца за гэтым страх, што ўсё, што прайшло да гэтага часу, было марным: аддадзены камусьці / камусьці, інтэлектуальны высілак, штодзённая цяжкая праца, пакута... Што пакуты і святочныя моманты шчасця, веды, якія я здабыў, старанні, якія ў гэта ўклаў, нарэшце, мае пачуцці — і гэтыя негатыўныя і пазітыўныя — што ўсё тое было дарма. Толькі што крывая зноў пачынае расці... Гэты працэс нязменны — крывая ідзе ўверх, крывая ідзе ўніз! І гэта так, быццам паміраеш сто разоў, і ў сто разоў неяк уваскрасаеш. Прайсці цыкл адзін раз гэта вялікі шок. Пераходзіць яго безупынна — гэта вар'яцтва! На жаль, кожны чалавек жыве ў такім вар'яцтве да... смерці.

Мая свядомасць назірае толькі эфекты працэсу — пад'ём і спуск. Значыць, вар'яцтва. Я не магу ісці ў нагу з падсвядомасцю, якая памнажае цёмныя страхі. Чаму штосьці штурхае мяне да спуску, штосьць да пад'ёму; у чым гэтага прычына? Гэта па-за межамі маёй свядомасці. Працэс перамянення, арганізацыі, распрацоўкі і, нарэшце, візуалізацыі да зразумелых ідэй ужо па-за мною. Ужо за маімі плячыма належная ацэнка маіх рэфлекторных дзеянняў. Яны ўзнікаюць з падсвядомасці. Гэта ў ёй кіпіць творчы амок. Я не сумняваюся, што яго запаленчыя іскры часам рассвятляюць свядомасць. Але глыбока сумняваюся ў ролі свядомасці, якую ёй прыпісвае чалавек — як рухаючай сілы, усёмагутнай, абумоўленай эгатычнай арганізацыяй Я. У мяне даволі дзіўнае адчуванне, што мая свядомасць з'яўляецца слугой падсвядомасці і таму маё свядомае Я ніколі не можа мець ніякага кантролю ані ўлады над ёю. Больш за тое, падсвядомасць патрабуе ад свядомага Я ўсё больш і больш новых паслуг. Вось чаму так часта я дзейнічаю насуперак сабе — часам па-дурному ды на шкоду і сабе, і свайму акружэнню. Часам, аднак, яе ўплыў прыносіць цудоўныя вынікі. Тым не менш, наступствы яе ўздзеяння нясе выключна мая свядомасць, якая атаясамліваецца з маім прозвішчам, асобай, з маімі блізкімі і нават даўно адышоўшымі продкамі. Гэта я свядома саромеюся сваіх правін, гэта я абавязаны загладзіць сваю віну ў магчымых крыўдах, якія я зрабіў іншым. Мая падсвядомасць робіць «рэдзькі» на гэта. Яна быццам бы кажа: «Гэта ўжо твая справа!».

Гермес — паводле Ляруса — атаясамліваецца з богам падарожнікаў, купцоў і... зладзеяў, але таксама з'яўляецца пасланнікам багоў, праваднікам душ памерлых, а таксама сімвалізуе — па-мойму — чалавечую падсвядомасць. Але пра ўсё па парадку... У старажытным Рыме атаясамліваўся ён з Меркурыем, у трэцім стагоддзі ператвараецца ў Гермеса Трысмегіста. Тады ён аўтар кніг, прысвечаных таямніцам магіі і алхіміі. Па словах В. Капалінскага — Гермес Трысмегіст (літаральна: тройчы вялікі) пачаў адлюстроўваць Тота, егіпецкага бога пісьменнікаў і мудрацоў. У той час атрымаў ён зусім новы твар, як носьбіт адкрыцця грэка-егіпецкіх герметычных ведаў, эзатэрычных, таемных. Герметыка паказваецца ў тэазофска-акультысцкіх пісьмёнах II і III стагоддзяў нашай эры ў выглядзе дыялогаў, адкрываючых Гермеса Трысмегіста. Гэта ягоная думка здзіўляе да сёння: «Сярэдзіна ўсюды, паверхня — нідзе».

А чаму я пішу пра гэта? Элінскае III стагоддзе змяшала ўплывы розных культур, рэлігій, інтуіцыі, ведаў і... немагчымасці. З яго вылупіўся пачатак сучаснай цывілізацыі. Ці цяперашнія часы не нагадваюць тадышніх — неспакойных і збълытаных, дзіўных, няўстойлівых і зладзейскіх? Эх, мая падсвядомасць забаўляецца мною... Чаму я пішу пра гэта?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Уедуць ці не ўедуць?

Жывем у такіх часах, што ад палітыкі не ўцячэм. І той вялікай, глабальнай, і той малой — нашай, мясцовай. Нам на польска-беларускім памежжы раптам прыйшлося жыць і з адным, і з другім выклікам. Быццам у гэтай рэкламе зубной пасты — два ў адным. На Падляшшы апынуліся мы на стыку вялікіх геапалітычных інтарэсаў Еўрасаюза і Расеі, у апошнім часе падмацаваных яшчэ амерыканскімі танкамі на сувальскім перашыйку і натаўскімі батальёнамі ў краінах Прыбалтыкі. І не за гарамі, і не за лясамі Украіна з яе ваенна-эканамічнымі праблемамі. То менавіта з Украіны маем таксама на Беласточчыне прыток вялікай колькасці працоўных уцекачоў, якіх марай з'яўляецца застацца ў нас назаўсёды. У такой сітуацыі скрытай, гібрыднай вайны раптоўна змяньваюцца сцэнарыі падзей, інтарэсаў і вектараў замежнай палітыкі пасобных еўрапейскіх саюзнікаў.

Іміграцыйны еўрапейскі крызіс, спалучаны з ростам тэрарыстычных актаў, здорава падарваў самазадавальненне еўрасаюзных камісараў і іх прыкарытнікаў. Паказаў поўную бездапаможнасць перад гэтай праблемай. У гарачцы і спешцы шукаюцца развязкі, якія могуць адцягнуць развал геапалітычнай карты Еўропы. Думкі і размовы пра новы перападзел гэтай часткі свету і новыя палітычна-ваенныя саюзы штораз часцей становяцца з'явай не з катэгорыі фантастыкі, але здаюцца быць рэальнасцю палітычных працэсаў. А прывід уцекачоў, якія заліваюць Еўропу не толькі з паўднёвага, але і з усходняга напрамкаў, можа ў любы момант набыць рэальны кшталт. Таму нічога дзіўнага, што так называемы апошні дыктатар Еўропы Аляксандр Лукашэнка з дня на дзень перамяніўся ледзь не ў хаўрусніка ўсіх дэмакратаў свету.

Цуды палітычнага праабражэння з'яўляюцца адной з самых, на жаль, смярдзючых спраў гэтага спрадвечнага, чалавечага занятку. З брыдкага чарвяка вылецела раптам прыгожая, прываблівая аксамітніца, да якой пачалі заляцацца салонныя красаўчыкі. А калі сватацца, дык не з пустымі рукамі. Бо аб'ект сватання — асоба спрактыкаваная, каб добра надаць усялякіх кавалераў і яшчэ не саромецца заяўляць пра сваю цнатлівасць. Дык паплылі мільёны еўрыкаў на падмацаванне слабавітых лукашэнкаўскіх чыноўнікаў і спробы пераканання «першай нявесты» краіны, каб у рамках падпісання магчымай дамовы з Еўрасаюзам аб спрошчаным візавым рэжыме падпісаць дамову і аб рэадмісіі. На практыцы абазначае гэта, што нелегальныя эмігранты, якія трапяць у Еўрасаюз з тэрыторыі Беларусі, мусяць ёю прымацца назад. І на такія лагеры, якія на мове палітыкі называюцца «міграцыйнымі цэнтрамі», Еўрасаюз выдзяляе сем мільёнаў еўра. Вось такая гарачая бульбіна, і за такую невялікую квоту ўгнявілі Аляксандра Рыгоравіча: «Калі нехта ў гэтым зацікаўлены, то грошы павінны вылучацца не толькі пад стварэнне падобных пунктаў і паселішчаў для незаконных мігрантаў, але і на іх далейшую экстрадыцыю. Нам яны тут непатрэбныя. Гэта трэба мець на ўвазе. (...) Хачу папярэдзіць, што ніякага адстойніка ў Беларусі быць не павінна». Здаецца, канкрэтна і лагічна — але як выйдзе — пабачым.

Тэма імігрантаў з усходняга напрамку стала менавіта гарачай па прычыне заявы ў палове студзеня саветніка прэм'ера Венгрыі Віктара Орбана па справах бяспекі Дзьёрдзя Бакондзі, які заявіў, што ў Польшчу трапляе штораз больш нелегалаў з Літвы, але раней з Украіны праз Беларусь. Польскія памежнікі адхрышчваюцца ад такіх намёкаў і лічаць іх неадэкватнымі. Пры нагодзе выявілі наступную статыстыку: у 2016 г. адмовілі ва ўездзе ў Польшчу 118 тысячам асоб. У 2015 г. было гэта 53 тысячы. Найбольшая колькасць адмоў уезду ў Польшчу была ў дачыненні да грамадзян Расеі — 75,8 тыс. асоб (адпаведна ў 2015 г. — 18,8 тыс.), Украіны — 22,8 тыс. (22,4 тыс.), Таджыкістана — 8,2 тыс. (3,1 тыс.), Беларусі — 3,7 тыс. (3,4 тыс.), Арменіі — 3,7 тыс. (1,2 тыс.). Найбольш адмоў уезду пералічана на мяжы з Беларуссю — 88,2 тыс. асоб (28,2 тыс.) і Украінай — 27,4 тыс. асоб (22,5 тысяч).

Як не глядзець, але праз беларускія вароты вядзе самы прываблівы шлях з усходу ў Еўропу і наадварот. І гэта для беларускай палітыкі і незалежнай дзяржавы з'яўляецца самым няпростым выклікам.

**Яўген ВАПА**

# Ваенная біяграфія

## Школа

Адна сястра была з 1919 года, а другая з 1922. У мяне крыху школы: беларуская, руская, нямецкая і польская. Я нарадзілася тут, у Занях, і хадзіла вучыцца ў Гліннік — там была чатырохгодка. Калі насталі ў нас саветы, то зрабілі з чатырох тры класы. Тады я пайшла ў Свірыды, дзе жыла мая старэйшая сястра, і там вучыў настаўнік, які адукацыю атрымаў у Расіі. Ён вёў чатырохкласную школу і мяне бацькі паслалі туды. І калі я напісала польскі алфавіт і рускі ці беларускі — не помню, але на наступны дзень то я яму правільна чытала. У яго тут былі сваякі і цераз іх ён паведаміў маіх бацькоў, што мяне трэба паслаць у школу ў Браньск, бо і ў Свірыдах мне нечага вучыцца. І калі я трапіла ў Браньск, то там былі настаўнікі звонку, з-за мяжы. І яны навучалі беларускай мове, вучылі рускай мове, а браньская жыдоўка Фрыда — вельмі яе шкадую — яна навучала нямецкай мове. І я ў яе напісала дыктоўку на пяцёрку. То тыя ўсе жыдоўскія дзеці, з якімі мы, беларусы, жылі дружна, дзіваваліся, гаварылі: „Як ты так тую дыктоўку напісала?" А я так пісала, пісала і не зрабіла ніякай памылкі. І так я крыху тае навукі схапіла.

## Каралевец

У сорак каторымсь годзе прыехалі немцы да нашай вёскі і ўсіх сагналі разам. І з таго пяць дзяўчат з 1926 года папалася, у тым ліку і я. І яны ўсіх нас завезлі ў Бельск, з Бельска зараз у Беласток і апынуліся мы ў Каралеўцы. Там, у Каралеўцы падышоў сын начальніка і сказаў, што можа ў каго ёсць тут сваякі. Я гэта ўсё, што ён гаварыў, разумела, а тыя дзяўчаты з Глінніка, з Прушанкі, з Рудкі, з Даманова і нашы — не. Узяў нас і мы былі на той фабрыцы. Усіх нас адсюль было чатырнаццаць, у тым пяць з Занёў. Былі мы там дзевяць месяцаў, і адну дзяўчыну з Глінніка нейкі свой пан, з якім ейныя бацькі афармілі справу, забраў яе ад нас. Пазней Станіслаў з Лап — вельмі шкада яго — таксама дзве забраў: адну з Прушанкі і адну з Глінніка.

## Уцёкі

Прыслалі мне бацькі ліст, дзе пісалі, што да нас прыйдуць два паны і трэба смела забрацца з імі. Чатыры дзяўчыны — тры ад нас і чацвёртая з Прушанкі. І ў Каралеўцы тыя два паны ішлі разам, а мы асобна ад сябе. Тыя тры, што ішлі перада мною, папаліся разам з тымі панамі, а я асталася. Але, на шчасце, я ведала нямецкую мову і трапіла да вайсковых. І яны пытаюцца, куды я, а я адказваю што ў водпуск. „Куды?" — „У Беласток". Я з імі прыехала ў Просткі і рашыла пашукаць сваёй кампаніі. Я выйшла з поезда, але яны мяне шукалі. Пытаюцца, як я так адбілася. Ну, а як жа ж мела быць, калі мы ўскаквалі як поезд рушыў. Яны мелі знаёмствы і завялі нас да тых знаёмых чыгуначнікаў і мы ў іх пераначавалі. На досвітку ўсе спалі, але мне на шчасце трэба было выйсці на двор. Чую, нешта ў нашым напрамку сунецца. Я буджу свайго пана і кажу, што нешта едзе, можа забярэмся. Ён пытае, дзе я была. А навонкі. Ён выскачыў і хутчэй нас паганяе. Я пакінула сумку са здымкамі, шкада, але добра, што самі ўратаваліся. Прыехалі ў Граева, а ён гэтай справай займаўся, і меў там знаёмых. Мы там прабылі тыдзень, прыехаў той пан з Лап, ён таксама быў дамоўлены. Прыехалі мы ў Лапы, а туды прыехаў бацька адной, з Прушанкі. Маці пашкадавала яе і мы тры дасталіся на сваё пяшком, каб на той фуры было менш.

## У Занях

А тут, мы ж уцяклі з Германіі, і зычлівых нам не было. Быў, напрыклад, адзін, што меў шмат дзяцей і ён не намагаўся выкупіць сваё з Германіі, а ягоная дачка магла б з намі прыехаць. Між бацькамі, як мне здаецца, не было еднасці, не было дбайнасці, і не было сэрца. Яна пасля дакарала мяне, што як мы ўцякалі, то нічога ёй не сказалі. Але ж калі ўцякаецца, то нікому не гаворыцца, толькі трэба Бога прасіць, каб удалося. А там, як працавалі на заводзе, жылі мы на прыватнай кватэры, а недалёка была паліцыя і тая паліцыя да нас заходзіла. І што? Мелі мы паведаміць: „Дзяўчаты, мы ўцякаем?". І пасля, як мы ўжо сюды з'явіліся, то так крышку скрываліся, бо некаторых людзей то нават пабойваліся. Пад лесам была такая груша, я пад яе хавалася тады, як тут немцы па вуліцы хадзілі, а мама мне туды прыносіла есці. Так мы жылі чатыры месяцы. Па чатырох месяцах прыехалі немцы і забралі тата; і забралі б яго туды куды хацелі. Але прыйшла я дахаты з-пад таго лесу і кажу маме: „Ён не паедзе, бо яго адразу страцяць, а мяне



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА




мо зноў завязуць у тое самае месца і буду там працаваць, але не будзе мяне мучыць сумленне, што з-за мяне бацьку страцілі".

## У Беластоку

Забралі мяне ў Браньск. І адна сяброўка, што разам у Каралеўцы была, прыйшла, а другая некуды адбілася. І тыя немцы забралі нас да прыбірання і рашылі нас там затрымаць. Варшавянка была там кухаркай, мы прыбіралі, немцам гэта спадабалася. Пасля дзевяці месяцаў вязуць нас у Бельск. Там нас зноў далучаюць да эшалона і мы ўжо пагадзіліся, што нас вязуць у тое самае месца. Але завезлі ў Беласток. Немец такі мілы, я так каля яго, размаўляем. І кажу, што хачу піць. А ён кажа: „Стаімо да дванаццатай гадзіны". А Беласток — горад вялікі, вада знойдзецца. Нейкі хлапец ад Бельска быў там, меў даваенную бутэльку-літроўку; кажу яму: „Дай мне, я пайду. Піць хочацца". Але ні піць, ні есці мне не хацелася. Выйшла я, пахадзіла па Беластоку, пахадзіла, але думаю сабе — шкада сяброўкі. Я прынесла тую ваду і выліваю, а немец пытаецца, што я раблю. А я кажу, што вада дрэнная і трэба яе выліць. Ён кажа, што Беласток гэта вялікі горад і добрая вада знойдзецца. То я кажу, што хачу ісці з сяброўкай. І немец зноў кажа, што да дванаццатай транспарт стаіць. Я тую сяброўку за руку і кажу, каб трымалася — едзем дадому. Яна крышку замялася, але я падбадзёрыла кажучы, што ніхто нас тут не будзе лавіць. І пайшлі. Глядзімо — перад намі нейкі будынак. А мы ж ніколі ў Беластоку не былі; у Браньску толькі бывалі. Я кажу: „Зойдзем у гэты будынак і спытаем пра напрамак на Браньск". Мы жанчыну пытаем пра напрамак на Браньск, а яна кажа нам: „Дзяўчаты, а куды ж вы прыйшлі — на жандармерыю". Сяброўка напілася там вады, мела з сабою дваццаць марак і іх там пакінула, забыла забраць. Але мы хутчэй у поле, там жанчыны лён рвалі. Яны ведалі ў чым справа і адна нас крыху падвяла і кажа: „Але на мосце немцы, яны будуць да вас крычаць, але не адзывайцеся". Мы ідзем, а яны крычаць, каб да іх прыйсці, паразмаўляць. А мы ім адказваем, што мы не разумеем. Мы пайшлі і спаткалі па дарозе дзяўчыну, якая забрала нас пераначаваць; у той час ужо бамбілі Беласток. Мы там пераначавалі і з тою сяброўкай напрасткі прыйшлі дахаты.

## Саветы

Насталі саветы і выведваюць, хто прыходзіў да немцаў і прыкідваўся партызанамі. Аднаго вечара сядзімо ўсёй сям'ёй — прыходзяць саветы, распытваюць пра мяне і забіраюць. Я пытаю чаму, а яны адказваюць: „Не беспокойся". Забралі мяне, загадалі сядаць на фурманку і пытаюць: „Знаешь эту деревню?". Я адказваю: „Нет". А я яе знала напраўлёт. Яны мне кажуць: „Девочка, здесь есть лесник, ты скажи нам, где он живёт". „Ну, простите, я же ничего не знаю, я не здешняя, это чужая мне деревня. Я нічога-нічога не знаю". Едзем далей, спатыкаюць іншага чалавека і пытаюць: „Хозяин, ты скажи, где лесник живёт". А ён кажа: „От недалеко вы проехали". Яны вярнуліся, забралі таго гаёвага на фурманку, завезлі за Свірыды, там мост быў тады разбураны. Яны паехалі бродам побач моста і загадалі нам сысці з воза. Мы злезлі і чую як той ляснік просіць: „Товарищи, вы не бейтя меня, бо у меня четверо детей". От, думаю, калі яму магіла, то і мне. Але маўчу. Саветы, было іх трох ці чатырох, загадалі нам зноў сядаць на воз. Ну, думаю, калі ў гэтым месцы не забілі, то заб'юць у іншым. Вязуць нас, вязуць, цераз Браньск перавезлі і завезлі нас у Паплавы. І на адным панадворку свіронак быў і мяне забіраюць у хату, а таго лесніка ў той свіронак. У гаспадароў была акурат сваячка з іншай мясцовасці. Той савет, што са мною быў, кажа: „Хозяйка, ты дай этой баришне постель". Прынесла гаспадыня пасцель, а я села на лаву і думаю: „Мне нічога ўжо не трэба, бо тут мне магіла". Сяджу, усе маўчым. Думаю: пайду ў бакоўку, да раніцы там прасяджу, а раніцай неяк дадому дастануся. Але не дазволілі. Раніцай перавялі мяне ў іншую хату і пільнуюць вартавыя з карабінамі. Прыйшоў савет і пытае: „Ну что, девушка?". Я кажу: „Плоха, далеко от дома". „Как далеко?" — „Очень далеко, пустите меня". А ён: „А кто тебя держит?". Але думаю: „А чаго ж ён з тым карабінам?" Пабыла я там нейкі час і з'явілася мая мама — даведалася ад людзей, куды я трапіла. І яшчэ адна знаёмая была і гаворыць яны саветам, што я нічога ў Браньску не рабіла, толькі прыбірала. Тады саветы адпусцілі мяне і я забралася з мамай дадому.

## Заміж мірнага жыцця

Прайшло крыху часу, нямнога, я была разам з бацькамі і вечарам, 2 лютага, неспакой, людзі выглядаюць на вуліцу. Я выглядаю на вуліцу, а адзін кажа да мяне: „Strzelam". Як ён так да мяне, то я рванула дахаты. Людзі сталі ўцякаць, ужо ў хаце крыху людзей сабралася. Была ў маёй хроснай дзяўчына, чатырнаццаць гадоў ёй было, і пасынак у яе быў, за якога я пасля выйшла замуж, а хросная была мамінай сястрой. І я з тою дзяўчынай прабегла, але тут быў фронт, тут стаяла столькі людзей, што хацелі нам згатаваць смерць. І як сталі страляць, то тую дзяўчыну мне на руках забілі. Мой будучы муж між стадоламі схаваўся і так астаўся ў жывых. А я пабегла далей. А кулі ляцелі так, як снег падае вялікімі мокрымі пялёсткамі. Апынулася я ў лесе і думаю, што тут мяне не знойдуць. Але чую — нехта пытае хто я. Гэта быў чалавек з нашай вёскі з двума сынамі. Мы рашылі шукаць іншага месца, баючыся, што нас там знойдуць і паб'юць. А быў і снег, і лёд, а вопраткі на сабе я мала мела. Цяжка-цяжка было, але неяк выжыла. Пайшла адсюль у Бельск, там была знаёмая мамы, краўчыха, там мяне прынялі і чатыры месяцы трымалі, і толькі ў маі з'явілася ў Зані, бульбу садзіць. Гэта ўсё немагчыма апісаць.

## Усё ціха

Мінула дваццаць гадоў, прадаю на рыначку насенне шведскай канюшыны, і яйкі, і іншую драбязу. Падыходзіць да мяне жанчына і жаліцца, што пад суд папала. За Зані. Я падбадзёрваю, каб не апасалася: ніхто ў нас нічога не гаворыць, усе ціха сядзяць, ніхто нічога не шукае і не будзе ніякага суда. Яна нейкую справу з ксяндзом з Гадышэва мела, і відаць яму нешта сказала. І мне давялося гутарыць з тым ксяндзом, ён распытваў як гэта было, прасіў, каб яму пра ўсё расказаць. Я згадзілася яму ўсё расказаць, але згінуў ён у Браньску ў выпадку і не дайшло да размовы. І слухала я Радыё Рацыя і дзве жанчыны размаўлялі, гаварылі, што ўсё вернецца... Значыць — гэтая вёска будзе яшчэ гарэць. Праўда, мала што ўжо ў ёй асталося, усё ўстарэлае, зямлю мы прадалі. Некалькі разоў мяне ў ІПН клікалі, але я не ездзіла, бо нечым у Беласток заехаць, калі хочуць, то няхай да мяне прыедуць. У Браньск то я яшчэ пехатою зайду, але ў Беласток ужо не.

Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

## Колькі жанчын на сто мужчын?

Вось некаторыя дэмаграфічныя цікавінкі з усходніх гмін Падляшскага ваяводства. Колькі жанчын прыпадае тут на сто мужчын? Найбольш жанчын лічачы на сто прадстаўнікоў брыдкага полу прыпадае ў Мілейчыцкай гміне Сямятыцкага павета — 115!

109 жанчын на 100 мужчын прыпадае ў Мельніцкай гміне Сямятыцкага павета, 108 у Чаромхаўскай гміне Гайнаўскага павета, па 106 у Васількаўскай і ў Супрасльскай гмінах Беластоцкага павета, 105 у Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета ды ў Крынскай гміне Сакольскага павета, 103 у Кляшчэлеўскай гміне Гайнаўскага павета, 102 у Нурэцкай гміне Сямятыцкага павета і 101 у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета. Роўна 100 на 100 прыпадае ў Бельскай і Гайнаўскай гмінах, у Заблудаўскай гміне Беластоцкага павета, Харашчанскай гміне Беластоцкага павета і ў Шудзялаўскай гміне Сакольскага павета.

А далей ужо будзе пра тое, у якіх гмінах Беласточчыны пераважаюць мужчыны. І так, у Белавежскай гміне на 100 мужчын прыпадае 99 жанчын, у Сямятыцкай — 98, у Нараўчанскай Гайнаўскага павета — 97 і ў Боцькаўскай Бельскага павета — 95.

## Зімнія канікулы нараўчанскіх вучняў

Зараз у вучняў два тыдні зімніх канікул. У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета школьнікі будуць мець цікавыя заняткі ў святліцах у Нараўцы, Семяноўцы і Старым Ляўкове ды ў нараўчанскай бібліятэцы.

Бібліятэка запрашае на супольнае чытанне цікавай прыгодніцкай кніжкі. Святліцы запрашаюць на паездкі на коўзанне па лёдзе на катку ў Беластоку ды на купальны басейн у Гайнаўцы. Багатую праграму заняткаў падчас канікул падрыхтавала святліца ў Старым Ляўкове. Тут заняткі будуць адбывацца кожны дзень. Дзеці і моладзь будуць прымаць удзел, між іншым, у конкурсах разьбы ў гліне, у кулінарных ды пластычных і музычных занятках, паедуць на куліг у лес (там будуць вогнішча і гульні), у святліцы наладзяць баль-маскарад. **(яц)**

# Хіба ўсё па старому?

Віцэміністр унутраных спраў і адміністрацыі 26 студзеня на соймавай камісіі нацыянальных меншасцей паабяцаў дадатковыя грошы на падтрымку праектаў нацыянальных меншасцей. Па выніках адкрытага конкурсу, агучанага міністэрствам, на культурныя праекты і дзейнасць арганізацый нацыянальных меншасцей у 2017 годзе, у параўнанні з мінулым годам, фінансавання не атрымала трэцяя частка праектаў. Аказалася, што грошы ў міністэрстве ёсць, і яшчэ каля пяці мільёнаў злотых патрапіць да меншасцей. Такое рашэнне Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі каментуе пасол нямецкай меншасці **Рышард Галя**:

— Ідэя была добрая, вось толькі яе рэалізацыя была не найлепшая. Падчас размеркавання сродкаў была такая прапанова з боку міністэрства: у сувязі з вялікай колькасцю дадаткаў да заяў (меншасці штосьці мянялі ў сваіх праектах), на выпадак, калі штосьці зменіцца цягам года, а грошы ўжо будуць размеркаваны, то, магчыма, варта зменшыць гэтыя сродкі і запланаваць іх да

| Lp. | Rodzaj mniejszości | CELOWE-MEDIA | CELOWE NA INWESTYCJE | PODMIOTOWE | CELOWE | RAZEM | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | białoruska | 120 000,00 | 0,00 | 109 500,00 | 1 511 200,00 | 1 740 700,00 | 15,6% |
| 2. | czeska | 0,00 | 0,00 | 9 000,00 | 54 900,00 | 63 900,00 | 0,6% |
| 3. | karaimska | 0,00 | 0,00 | 20 000,00 | 53 300,00 | 73 300,00 | 0,7% |
| 4. | litewska | 0,00 | 0,00 | 124 500,00 | 458 000,00 | 582 500,00 | 5,2% |
| 5. | łemkowska | 268 000,00 | 678 000,00 | 99 000,00 | 722 550,00 | 1 767 550,00 | 15,8% |
| 6. | niemiecka | 104 000,00 | 0,00 | 421 500,00 | 1 259 730,00 | 1 785 230,00 | 16,0% |
| 7. | ormiańska | 0,00 | 0,00 | 46 300,00 | 174 000,00 | 220 300,00 | 2,0% |
| 8. | romska | 0,00 | 0,00 | 59 000,00 | 619 700,00 | 678 700,00 | 6,1% |
| 9. | rosyjska | 0,00 | 0,00 | 13 800,00 | 70 100,00 | 83 900,00 | 0,7% |
| 10. | słowacka | 0,00 | 0,00 | 23 500,00 | 286 300,00 | 309 800,00 | 2,8% |
| 11. | tatarska | 0,00 | 0,00 | 10 500,00 | 171 500,00 | 182 000,00 | 1,6% |
| 12. | ukraińska | 26 600,00 | 500 000,00 | 157 000,00 | 1 159 400,00 | 1 843 000,00 | 16,5% |
| 13. | żydowska | 0,00 | 0,00 | 112 000,00 | 641 100,00 | 753 100,00 | 6,7% |
| 14. | promocja | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,0% |
| 15. | język kaszubski | 460 000,00 | 0,00 | 124 000,00 | 521 100,00 | 1 105 100,00 | 9,9% |
| | Razem | 978 600,00 | 1 178 000,00 | 1 329 600,00 | 7 702 880,00 | 11 189 080,00 | 100,0% |
| | | 8,7% | 10,5% | 11,9% | 68,8% | 100,0% | |

крыніца: MSWiA

— Гэта роля міністэрства, і яно вырашае, як размеркаваць сродкі. Мне здаецца, што, магчыма, у міністэрстве крыху востра хацелі падысці да гэтага пытання, таму далі толькі 2/3 грошай. Аднак там зразумелі, што запатрабаванне большае, бо з'явіўся голас меншасці. Таму цяпер гэтыя фінансавыя сродкі будуць дадаткова падзелены між меншасцямі.

**Сэбастыян Хвалэк** — віцэ-міністр унутраных спраў і адміністрацыі:

— Мы размеркавалі 2/3 сродкаў, а 1/3 грошай пакінулі на фінансаванне праектаў, якія не былі прыняты, але могуць быць абскарджаны меншасцямі. Таксама хачу падкрэсліць, што ў параўнанні з бюджэтам мінулага года сёлетнія сродкі на меншасці на 900 тысяч злотых большыя. 16 студзеня мы збіралі абскарджанні папярэдніх рашэнняў па размеркаванні сродкаў на праекты меншасцей. Аднак, нягледзячы на тое, што тэрмін мінуў, мы надалей прымаем абскарджанні. Хутчэй за ўсё, да канца лютага яны будуць разгледжаны і ўсе сродкі будуць размеркаваны. Не разумею, чаму ўзнікла гэтая блытаніна.

**Артур Хофман** — старшыня грамадска-культурнага аб'яднання яўрэяў у Польшчы і прадстаўнік яўрэйскай меншасці пры Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных ды этнічных меншасцей:

— Ідэя была добрая, вось толькі яе рэалізацыя была не найлепшая. Падчас размеркавання сродкаў была такая прапанова з боку міністэрства: у сувязі з вялікай колькасцю дадаткаў да заяў (меншасці штосьці мянялі ў сваіх праектах), на выпадак, калі штосьці зменіцца цягам года, а грошы ўжо будуць размеркаваны, то, магчыма, варта зменшыць гэтыя сродкі і запланаваць іх да нейкага моманту. Напрыклад, калі ў сярэдзіне года меншасці вырашаць рэалізаваць свой праект, то грошы на яго будуць. У нас былі розныя погляды. Некаторыя лічылі, што лепш будзе, калі зрабіць усё так, як гэта было раней: на ўвесь год і на тое, што ёсць. А міністэрства баялася, што ў нас цягам года штосьці зьмяняецца і пасля мы пішам дадаткі да нашых праектаў.

**Адам Ліпіньскі** — міністр, упаўнаважаны ўрада па справах грамадзянскай супольнасці:

— Напэўна розныя арганізацыі будуць наракаць, што яны атрымалі менш, а іншыя — больш. Так гэта ёсць пры падзеле. Ёсць камісіі, конкурсы — яны ўсё і вырашаюць. Але сродкаў стала адназначна больш.

Радыё Рацыя:

— Аднак Беларускае Радыё Рацыя атрымала значна менш фінансавых сродкаў, пры гэтым яго роля даволі вялікая.

Адам Ліпіньскі:

— Гэта непакоіць. І я буду ўздымаць гэтае пытанне. Разам з тым паўтаруся: ёсць камісіі і конкурсы, і я не магу ў іх умешвацца. Я згодны, што Беларускае Радыё Рацыя павінна атрымаць больш грошай, што яно выконвае вельмі вялікую ролю. Я маю сімпатыю да гэтага радыё, таму пастараюся зрабіць усё, каб яго фінансава падтрымалі.

**Данута Петрашэўская** — старшыня Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей:

— Добра, што ёсць зарэзерваваныя сродкі. Прыхільна глядзіць на гэта і сам міністр. Я думаю, што ўсе гэтыя заявы будуць пазітыўна разгледжаны. Я рада, што грошай на меншасці стала на 900 тысяч злотых больш, што дае магчымасць для разгляду большай колькасці праектаў.

**Яўген Вапа** — старшыня Беларускага саюзу ў Польшчы:

— Мне здаецца, што каб не было шуму, то не было б і дадатковых сродкаў. Такая ёсць заўсёды рэальнасць змагання за грошы. І трэба выразна, адказна сказаць, што і спосаб падзелу грошай, і розныя падазрэнні ды намёкі, якія ўспыхнулі ў сувязі з гэтым... то вельмі добра, што ў рамках такой кампенсацыі міністру, які адказны за меншасныя справы, удалося яму дакласці гэтыя 900 тысяч злотых. Але ж у маштабах усіх меншасцей гэта кропля патрэб. Бюджэт у памеры 15 мільёнаў злотых цягам апошніх гадоў — гэта вельмі малы бюджэт на рэальныя патрэбы, каб вырашыць справы нацыянальных меншасцей.

Калі б фінансаванне Беларускага Радыё Рацыя зменшылася да прапанавай міністэрствам сумы, з нашага эфіру магла б знікнуць, між іншым, перадача для дзяцей, „Падляшскі тыдзень", „Падляшскі канцэрт пажаданняў", частка перадач „Краязнаўчыя кропкі" і перадачы „З Падляшша родам".

**Радаслаў ДАМБРОЎСКІ**
Беларускае Радыё Рацыя

# Дыягназ грамадска-гаспадарчай сітуацыі Арлянскай гміны

**На XVI сесіі арлянскай Гміннай рады, якая адбылася 30 лістапада мінулага года, радныя аднадушна прынялі пастанову „План мясцовага развіцця Арлянскай гміны на 2016-2023 гады".**

На жаль, большасць радных галасавала, не пазнаёміўшыся раней з матэрыяламі, якія былі даступны ў Гміннай управе. Звярнуў я на гэта ўвагу, бо матэрыялы, улічваючы затрачаныя сродкі на іх апрацоўку ды працу войта і гмінных чыноўнікаў, вельмі цікавыя і важныя.

**Размяшчэнне, плошча, дэмаграфія**

Арлянская гміна распалажана ў паўднёва-ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства, у Бельскім павеце, у наваколлі Белавежскай пушчы і ў вобрубе „Зялёных лёгкіх Польшчы". З усходу мяжуе яна з Чыжоўскай і Дубіцкай гмінамі, з Бельскай з поўначы, з Боцькаўскай з захаду і з Кляшчэлеўскай з поўдня.

Плошча гміны займае амаль шаснаццаць тысяч гектараў, у тым ліку 12 789 га сельскагаспадарчых угоддзяў і 1862 га лясоў. У яе складзе 22 салэцтвы (ахопліваюць 26 мясцовасцей): Чахі-Забалотныя, Дыдулі, Градалі, Рыгораўцы, Кашалі, Кошкі, Крывятычы, Малліннікі, Міклашы, Москаўцы, Алекшы, Орля, Пашкоўшчына, Паўлінова, Рудуты, Спічкі, Шчыты-Дзенцялова, Шчыты-Навадворы, Шарні, Тапчыкалы, Вулька і Вулька-Выганоўская.

На канец 2016 года насельніцтва гміны налічвала 2918 асоб, у тым 1522 жанчын і 1396 мужчын (годам раней было 2868 асоб, у тым 1503 жанчыны і 1365 мужчын); у самой Орлі жыве 901 асоба. Шчыльнасць насельніцтва — 18 асоб на квадратны кіламетр. Цягам 2011-2016 гадоў лік насельніцтва скараціўся на 137 душ. У гміне пражываюць людзі пераважна пажылога ўзросту.

**Рынак працы**

Важнай грамадскай праблемай гміны надалей застаецца беспрацоўе, якое ў канцы 2015 года было на ўзроўні 6,9% і было крыху большае чым годам раней. На 31 ліпеня 2016 года ў Павятовай управе працы ў Бельску-Падляшскім было зарэгістраваных 75 беспрацоўных жыхароў Арлянскай гміны (у канцы 2015 года была 91 асоба, у тым 47 мужчын і 44 жанчыны, у канцы 2013 года 125 асоб: адпаведна 65 і 60). Узровень беспрацоўя ў 2014-2016 гадах паменшаў, аднак на практыцы беспрацоўных больш, бо не ўсе рэгіструюцца.

**Гаспадарка**

На тэрыторыі Арлянскай гміны пераважаюць гаспадарчыя суб'екты з прыватнага сектара і іх лік з кожным годам расце. Найбольшую дынаміку паказваюць асобы, якія вядуць гаспадарчую дзейнасць.

У канцы 2015 года на тэрыторыі Арлянскай гміны дзейнічалі 123 гаспадарчыя суб'екты, у тым ліку 85 фізічных асоб вядучых гаспадарчую дзейнасць, 5 суб'ектаў публічнага сектара, 9 суполак гандлёвага права, 5 кааператываў ды 12 згуртаванняў і грамадскіх арганізацый. Удзел прыватнага сектара ў гаспадарчай дзейнасці перавысіў 94%.

Найбольшым працадаўцам на тэрыторыі гміны з'яўляецца арлянскі аддзел суполкі IKEA, у якім працуе больш за 250 асоб. Да буйнейшых фірм належаць таксама суполка Шчыты, у якой працуе 55 чалавек і суполка Нафтан, у якой каля сарака пяці асоб персаналу.

**Сельская гаспадарка**

Дамінуючай галінай гаспадаркі ў гміне з'яўляецца сельская гаспадарка. Асноўнай яе прадукцыяй з'яўляецца раслінная вытворчасць. Галоўныя пасяўныя культуры гэта кукуруза, рапс, збожжа. Якасць грунтаў не спрые вырошчванню іншых раслін. У жывёлагадоўлі дамінуе гадоўля свіней і быдла.

У Арлянскай гміне найбольш сельскіх гаспадарак ад аднаго да пяці гектараў — іх 422, гаспадарак да аднаго гектара 356, а 10-15-гектарных 104. Наглядаецца сістэматычная канцэнтрацыя грунтаў у групе большых гаспадарак, таварных, вырабляючых вялікія колькасці тавару на рынак. Дынаміка гэтага працэсу даволі памяркоўная з прычыны адсутнасці альтэрнатыўных сацыяльных прапаноў у адрас сялян і іх сем'яў, якія рашыліся б пазбыцца сваіх гаспадарак.

**Глебы**

У Арлянскай гміне плошча ворных грунтаў займае амаль 7700 гектараў, у тым ліку грунты трэцяга класа займаюць амаль 1746 га, чацвёртага — каля 3729 га, пятага амаль 1500 га, шостага за 723 га. Вынікае з гэтага, што каля 60-70% ворных угоддзяў займаюць глебы добрай і сярэдняй прадукцыйнасці. Найбольш іх у раёне Орлі, Крывятыч, Шарнёў, Кашалёў, Спічкоў, Тапчыкал і Рыгораўцаў. Менш іх каля Маліннік, Москаўцаў і Шчытоў.

Зялёныя ўгоддзі выступаюць пераважна ў рачных далінах і найбольш іх каля Паўлінова і Вулькі-Выганоўскай.

Цэны грунтаў з восені 2016 года залежалі ад іх якасці: цана якасных угоддзяў падыходзіла пад пяцьдзясят тысяч за гектар, сярэдніх перавышала сорак тысяч, а слабейшых не даходзіла да дваццаці сямі тысяч за гектар. Сярэдняя цана за гектар гэта 37 271 злот; для параўнання — у 2007 годзе было гэта каля дзесяці тысяч. Большасць малазямельных сялян пазбылася сваіх гаспадарак у мінулых гадах. У цэлай гміне толькі некалькі ўладальнікаў, у якіх па некалькі сотак гектараў.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Дабрачыннасць і салідарнасць


Калякты «Барвінок»

**Каля сотні асоб гуляла на дабрачынным балі ў Дуброве-Беластоцкай. Рэстаран «На скарпе» быў запоўнены да апошняга месца. Мэта балю — назбіраць як мага больш грошай на неабходны рамонт купала царквы ў Ячне. Мерапрыемства даказала, што не толькі дабрачыннасць, але перш за ўсё салідарнасць дае магчымасць рэалізацыі самых высакародных мэт.**



27 студзеня ў Дуброве-Беластоцкай прайшоў першы дабрачынны баль, зладжаны дзеля падтрымкі прыхода ў Ячне. Госці вельмі добра сябе адчувалі ў час мерапрыемства і даказалі сваю шчодрасць. Мэтай незвычайнага вечара было сабраць грошы на рамонт купала ячанскай царквы. Кошт інвестыцыі ацэньваецца на 60 тысяч залатых, што перавышае магчымасці невялікага прыхода. Таму яго настаяцель, айцец Пятро Ганчарук разлічвае на падтрымку людзей неабыякавых да праблемы векавога прыхода. І не памыліўся.

На мерапрыемстве з'явіліся прадстаўнікі ўлад — бургаміст Рамуальд Грамадскі, віцэ-староста Сакольскага павета Юры Беламызы, каталіцкі ксёндз з Сідэркі Вайцех Эйсмонт, члены Брацтва праваслаўнай моладзі на чале з былой старшынёй Ксеніяй Кацэйка ды мясцовыя жыхары.

— Ячна — гэта мой першы прыход, — сказаў Юры Беламызы. — Таму нават беручы пад увагу сентыменты не мог я застацца абыякавы. Я вельмі ўдзячны айцу Ганчаруку за тое, што выступіў з такой ініцыятывай. Мы сустрэліся тут, разам адпачываем, інтэгруемся. Пры нагодзе збіраем грошы на рамонт. Калі скончыцца баль, пабачым колькі іх будзе!

Мерапрыемства пачала супольная малітва. Гасцей прывітаў айцец Пятро Ганчарук, падкрэсліваючы, што ў першую чаргу разлічвае на добрую атмасферу і гульню. З асаблівай узрушанасцю пра цэлую акцыю выказваліся самі прыхаджане Ячанскага прыхода, які налічвае толькі дзвесце чалавек. Хаця толькі некалькі месяцаў таму яго настаяцелем стаў айцец Пятро Ганчарук, паляпшэнне стану царквы палічыў прыярытэтам сваёй паслугі. Калядаванне групы моладзі па дуброўскіх вёсках было таксама наладжанае з мэтай збору грошай на рамонт купала царквы. Аднак новаму бацюшку вельмі важным з'яўляецца таксама тое, каб аб'яднаць прыхільных Царкве людзей.

— У нас тут шмат чаго добрага, — сказаў у час мерапрыемства айцец Ганчарук. — І танцуюць добра. Але таксама і сумуюць, размаўляюць. Гэта была мая галоўная мэта, каб людзі маглі спаткацца не толькі перад тэлевізарам, але і пры стале, пры музыцы. Мая першая мэта — гэта інтэграцыя. Удалося сабраць людзей і сабраць грошы на рамонт.

Ахвотных людзей, якія хацелі дапамагчы, не бракавала. У дабрачынным мерапрыемстве прыняло ўдзел каля сотні чалавек. Гульні суправаджаў аўкцыён, фанты на які перадалі прадпрымальнікі, мастакі і падляшскія калектывы. Усе былі куплены па ў некалькі разоў вышэйшай цане, чым іх рэальны кошт. Сярод моладзі найбольшым зацікаўленнем карысталіся менавіта кружэлкі з аўтографамі такіх гуртоў як «Чарамшына», «Прымакі». Таксам Ігару Клемені ўдалося купіць бон на прагулку на пажарнай машыне Добраахвотнай пажарнай каманды ў Ячне. Папулярнасцю карысталіся скульптуры мастака Рышарда Мыслюўца з Каменнай-Новай, які ахвяраваў іх некалькі на дабрачынны баль. Таксама сваю падтрымку аказаў не толькі самой прысутнасцю ў мерапрыемстве член Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» Міхал Стэльмашук, але перамог на адным з зацятых аўкцыёнаў.

— Тут ніколі такой забавы не было, — сказаў выпускнік Палітэхнікі Данель Шчурко з Дубасьна. — Я дапамагаў пры арганізацыі. Маёй задачай было сабраць, запрасіць як мага большую колькасць людзей ахвотных прыняць удзел у мерапрыемстве, каб разам пагуляць. Гэта карыснае і прыемнае.

За музычны бок мерапрыемства паклапаціўся гурт «Serwer Dance», які бясплатна бавіў гасцей да ранніх гадзін. У час балю гасцінна выступіў калектыў «Барвінок» з Беларусі, які адмыслова прыехаў з Гародні з мэтай таксама бясплатнага выступіць перад ахвяравальнікамі.


Удзельнікі балю з Брацтва праваслаўнай моладзі

— Я хачу падзякаваць айцу за запрашэнне на мерапрыемства, — сказаў бургамістр Рамуальд Грамадскі. — У балю — светлая мэта, гасцей многа і я спадзяюся, што ўсе шчодра падтрымаюць гэтую акцыю. Таксама спадзяюся, што ініцыятыва айца Пятра Ганчарука дасць пачатак новай традыцыі і такога тыпу мерапрыемствы будуць праходзіць цыклічна.

На завяршэнне дабрачыннага балю ў Дуброве айцец Пятро Ганчарук быў пад уражаннем ад зычлівасці і падтрымкі з боку ўсіх удзельнікаў балю. Падкрэсліў адначасова, што паколькі ёсць такое жаданне, мерапрыемства будзе ладзіцца ў наступных гадах.

— Я пад уражаннем ад шчодрасці нашых гасцей, — сказаў напрыканцы мерапрыемства айцец Ганчарук. — Удалося сабраць вялікую суму, якая будзе прызначана на рамонт купала. Гэта велізарная сума, мы з прыхаджанамі не змаглі б сабраць такой колькасці грошай. Я думаю, што гэтая падзея ўпішацца ў каляндар прыхода. З хваляваннем у сэрцы шчыра дзякую ўсім ахвяравальнікам і ўстановам, якія падтрымалі нашу ініцыятыву.

Магчыма, што дабрачыннае мерапрыемства стане добрай традыцыяй. У гэтым выпадку, нават калі нехта не ідэнтыфікаваўся з Царквой праз сваю веру, то разумеў, што варта клапоціцца за прыгожы храм, які ад вякоў быў неад'емнай часткай дуброўскага краявіду. Ніхто па-за намі самімі не будзе ініцыяваў яго выратавання. Напэўна гэта вялікая радасць для маладога настаяцеля, паколькі сабралася так шмат людзей, якія хочуць удзельнічаць у добрых справах і рабіць гэта зусім бескарысна. Калі хтосьці хацеў бы яшчэ падтрымаць акцыю, патрэбную інфармацыю знойдзе на сайце Ячанскага прыхода.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Пятая навукова-краязнаўчая канферэнцыя ў музеі-сядзібе „Пружанскі палацык”



23 снежня 2016 г. у музеі-сядзібе „Пружанскі палацык” прайшла V навукова-краязнаўчая канферэнцыя пад назвай „Белавежжа: мінулае і сучаснасць”. Яна аб'яднала даследчыкаў, у сферу інтарэсаў якіх уваходзіць вывучэнне Белавежскай пушчы. Сярод прыярытэтных тэм — прыродна-геаграфічныя асаблівасці і біялагічная разнастайнасць, гісторыя і асобы, гаспадарка і турызм і інш. Шырокая тэматыка дазволіла далучыць да іх абмеркавання вучоных, краязнаўцаў і музейных супрацоўнікаў з Беларусі і Польшчы.

Агляд крыніц, якія тычацца розных бакоў жыцця Белавежжа ў міжваенны перыяд і захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, зрабіў доктар гістарычных навук, прафесар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Аляксандр Вабішчэвіч.

Галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы „Пружанскі палацык” Наталля Пракаповіч асвятліла гісторыю паселішчаў Пружаншчыны ў сістэме аховы і гаспадаркі Белавежскай пушчы XV-XVIII стст.

Падзеі паўстання 1863 г. каля в. Глыбокі Кут закрануў кандыдат гістарычных навук Віталь Карнялюк (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы).

Лёс святара Канстанціна Байко — ахвяры пасляваенных сталінскіх рэпрэсій — адлюстраваў Дарафей Фіёнік (дырэктар музея Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах, г. Бельск-Падляшскі, Польшча).

Даклад настаўніцы СШ № 4 г. Пружаны Святланы Собаль і студэнткі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Дар'і Місюлі быў прысвечаны „Папялёўскаму перыяду” жыцця і творчасці беларускага літаратара Міколы Купрэева.

Па выніках канферэнцыі „Белавежжа: мінулае і сучаснасць” быў выдадзены зборнік дакладаў. Акрамя ўзгаданых у ім былі надрукаваны даследаванні вучоных: Ірыны Абрамавай, Сяргея Арцёменкі, Аксаны Градуновай, Аляксандра Грыбко, Віктара Карпука, Сяргея Нічыпарука, Наталлі Галімавай, Аляксандра Свірыда (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна), Аляксандра Казарэза (Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт).

Канферэнцыя ў „Пружанскім палацыку” дазволіла аб'яднаць вучоных і краязнаўцаў, якія займаюцца вывучэннем Белавежскага рэгіёна, абмеркаваць актуальныя пытанні і сабраць цікавы і карысны матэрыял, як для даследчыкаў, так і шырокіх колаў грамадства.

**Наталля Пракаповіч**
галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы „Пружанскі палацык”



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


*Замкі і палацы Беларусі*

# СЛУЦКАЯ БРАМА — НЕПАРУШНЫ МУР!

Слуцкая брама, гэта будынак-душа! Пра яе спяваюць песні, апавядаюць легенды.

Яна як адзіная ператрывала да нашых гадоў. Калі азірнуцца ў глыб стагоддзяў, падобныя будоўлі мелі многія гарады Беларусі. У самым Нясвіжы было аж пяць такіх брам.

Спачатку адно тлумачэнне — Слуцкая брама, нягледзячы на назоў, знаходзіцца ў Нясвіжы.

Як яе сёстры, яна пабудавана ў сістэме гарадскіх умацаванняў у канцы XVI — пачатку XVII стст. Першапачаткова мела выгляд невялікай вежы з чатырохсхільным дахам. Ад дамбы яна аддзялялася пад'ёмным мостам, па якім упускалі толькі жаданых гасцей. Але гэта не ўсё. Каб пераступіць «парог» у славуты горад Радзівілаў, падарожнік быў вымушаны заплаціць мыта. Таму на першым паверсе брамы знаходзілася каморка для варты і чыноўніка, які збіраў вызначаную аплату.

Слуцкая брама ўжо здалёк прываблівае нейкай тайнай, абяцанкай. Магчыма, так дзейнічае балкон на другім паверсе, які выходзіць на горад. На тым жа другім паверсе знаходзілася капліца Божай Маці з іконай Багародзіцы з Дзіцяткам.



У сваёй гісторыі Слуцкая брама зведала шмат выпрабаванняў. У час вайны 1654-1667 гадоў гарадскія ўмацаванні, у тым ліку і гарадскія брамы, былі значна пашкоджаны. Слуцкая брама была не толькі адбудаваная. Пасля рэстаўрацыі яна набыла рысы барока.

Больш-менш у такім выглядзе яна ператрывала да нашых дзён. Знаёмасць з чароўнай будоўляй наша моладзь працягвала ў час фестываляў «Басовішча», дзякуючы рок-гурту «Крама». Музыкам належыць шэдэўр пад аднайменным з брамай загалоўкам. У ім уся гісторыя будоўлі і яе ахоўна-апякунчая моц:

*Калі знясіліш ад мітрэнгі марнай,*
*Калі ў думках запануе змрок —*
*Паслухай лепей споведзь Слуцкай брамы,*
*І знойдзеш моцы на наступны крок.*

**Прыпеў:**
*Чуеш? чуеш? Ляскат зброі!*
*Чуеш? чуеш? Варты кліч!*
*Чуеш? чуеш? Агонь паходні*
*Палае ў цемрадзі як вечны зніч!*
*Слуцкая брама — непарушны мур.*
*Слуцкая брама — сведка авантур.*
*Слуцкая брама — гонар твой не знік.*
*Слуцкая брама — я твой вартаўнік.*

*Спазналі многа твае велічныя сховы,*
*Дабра і зла ліхую кругаверць.*
*Сябрам была ты шчаснаю падковай,*
*А лютым ворагам абяцала смерць.*

**(гак)**

Уршуля МАРЧУК
Гімназія ў Нараўцы

## За край свой, за волю!

Дзядуля мой!
Ты такі адважны быў.
У цябе жонка і дзеці былі,
якіх ты моцна кахаў.
Так моцна, як свой край
— Беларусь
і жончыну Беласточчыну.
Але прыйшоў час вайны,
а з ёю цяжкі час разлукі.
Ты ад'ехаў ратаваць сваю краіну,
ратаваць будучыню сям'і.
Ваяваў, праліваў пот і кроў.
Ты думаў, што вернешся дахаты,
але лёс не быў такі ласкавы
і для цябе, і для тваёй сям'і.

. . .
Хачу, каб ты ведаў,
што бабуля цябе кахала
і доўга чакала.
Засталіся ёй толькі ўспаміны
ў выглядзе здымкаў тваіх
і выплаканыя вочы.
Не дачакаўшыся цябе ў хаце,
пайшла шукаць цябе
па нябесных загонах.
Сустракай яе!



Фота Ірэны Харкевіч

## Зімнія канікулы нараўчанскіх вучняў

Зараз у вучняў два тыдні зімніх канікул. У Нараўчанскай гміне ладзяць заняткі ў святліцах у Нараўцы, Семяноўцы і Старым Ляўкове ды ў нараўчанскай бібліятэцы.

Бібліятэка запрашае на супольнае чытанне прыгодніцкіх кніжак. Святліцы прапануюць паездкі на коўзанне па лёдзе на катку ў Беластоку ды на купальны басейн у Гайнаўцы.

Багатую праграму заняткаў падрыхтавала святліца ў Старым Ляўкове. Тут заняткі адбываюцца кожны дзень. Дзеці і моладзь прымаюць удзел, між іншым, у конкурсах разьбы ў гліне, у кулінарных ды пластычных і музычных занятках. Як цвік праграмы, запланаваныя куліг у лес, там будуць вогнішча і гульні. І гэта не канец — у святліцы наладзяць баль-маскарад. (яц)

## УВАГА КОНКУРС! № 06-17

**Яго дом — акіян,**
**Яго ежа — планктон.**
**Мае ўласны фантан.**
**Адкажыце, хто ён?**
**К..**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 19 лютага 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 3-17: люстра. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Аліўка Порац, Марыся Урбановіч, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Аляксандра Бакун, Анна Кендысь, Марыюш Радэцкі з КШ № 1 у Гайнаўцы, Вікторыя Гаць з Бельска-Паляшскага. Віншуем!**



## Разум, Багацце і Шчасце
*(казкі народаў Каўказа)*

Паспрачаліся аднойчы Шчасце, Багацце і Розум.

— Я на першым месцы, — кажа Багацце.

— Без шчасця багацце нічога не вартае, — папракнула яго Шчасце,

— Калі няма розуму, дык не паможа ні шчасце, ні багацце, — сказаў Розум.

Доўга яны спрачаліся аж вырашылі праверыць хто мае рацыю.

Выйшлі яны ў свет, доўга вандравалі аж пабачылі маладога джыгіта, які сеяў на невялічкім загоне кукурузу.

— Каб тваё поле пакрылася золатам! — загадала жэстам Багацце.

У адзін момант усё поле пакрылася залатымі самародкамі. Тым часам Розум, каб даказаць сваю важнасць, загадаў мудрасці выйсці з галавы хлапца. І вось — падзейнічала! Хлапец зусім не пацікавіўся самародкамі, ён палічыў іх звычайнымі каменьчыкамі. Ён пачаў наракаць:

— Вось, якая бяда, мой палетак засыпаў град камянёў.

Пабег джыгіт у аул, каб паскардзіцца людзям. Па дарозе ён сустрэў бая.

— Чаму ты такі ўсхваляваны? — спытаў яго бай. — Пайду я пагляджу, што там здарылася на тваім полі.

Зайшоў бай на поле і бачыць — столькі золата! Ён аднак не падаў віду, прыкінуўся дурачком і кажа джыгіту:

— Пашкадую я цябе небарака. Вось у мяне многа зямлі. Вазьмі сабе адзін загон, а мне аддай гэты клапатлівы каменны ўчастак.

Уцешыўся хлапец і памяняў поле. Сабраў бай золата з джыгітавай зямлі, загрузіў яго на вярблюда і павёз у двор. Тады Шчасце, каб паказаць сваю моц, вымавіла ў бок падманутага джыгіта:

— Будзь шчаслівы!

Тут жа, невядома адкуль, прыехаў на поле атрад ваяроў і кажуць джыгіту:

— Патрэбны нам камандзір!

Джыгіт, пазбаўлены розуму, не ведаў што адказаць. Ён толькі кіўнуў галавой. Тады ваяры далі яму сярэбраную кальчугу, ахуталі дарагімі апранахамі і зброяй, пасадзілі на варанога каня і паехалі ўсе ў дарогу. Нанач спыніліся ў таго бая, што абакраў джыгіта. А ў яго была дачка прыгажуня. Убачыўшы ён маладога камандзіра, захапіўся і кажа:

— Давайце ажэнім гэтага храбрага камандзіра з маёй дачкой-прыгажуняй!

Кіўнуў галавой хлапец на згоду, але не адазваўся словам. Баяўся, каб праўда не выйшла наверх як шыла з мяшка. Тры дні ён маўчаў, да нікога не адазваўся:

— Што ён так заўзята маўчыць? — здзіўляюцца людзі. — А можа ён гаварыць не ўмее, можа нямы? Нават сам бай зазлаваў. Што гэта за зяць такі, што маўчыць як магіла?

Бачаць Багацце і Шчасце, што справы ідуць дрэнна, ды сталі яны прасіць Розум:

— Вярніся да яго!

— Ну, добра! Вярнуся.

У той момант з'явіўся бай, каб пагаварыць з джыгітам.

— Скажы зяцёк, чаму ты нічога не гаворыш?

— А вось, — адказаў джыгіт, — калі я яшчэ быў малы, на наш аул нахлынулі лютыя ворагі. Усе, хто жывы, сталі на абарону — мужчыны і жанчыны. Але самы адважны быў малады джыгіт. Ён адзін перабіў амаль усіх ворагаў. А калі кончылася бітва, аказалася, што тым храбрым ваякам была дзяўчына, пераапранутая ў мужчынскае адзенне. Вось і маўчаў я два дні і думаў — ці можна гэтую дзеўку ставіць на роўні з бойкімі ваярамі?

Усцешыўся бай, што яго зяць так складна і прыгожа гаворыць. Ён паблаславіў маладую пару, справілі вяселле і адправілі іх у хату маладога, з багатым прыданнем.

Сустрэліся Шчасце, Розум і Багацце. І далі згоду, што для чалавека самы важны розум. Калі ў чалавека няма розуму, дык багацце і шчасце яму не дапамогуць.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

## Вершы Віктара Шведа

### Прадукцыя хмар

Глядзяць уважліва яны
На фабрычныя каміны.
І хіба даспадобы ім,
Што з іх клубіцца густы дым.

У дзяцей так многа мар —
Прадукцыю мы маем хмар!
Не ведаюць аб гэтым дзеці,
Чым пагражае смог на свеце.

### Колькі гадоў сварцы?

Пасля сямейнай сваркі
Было пытанне сына Марка:
— Колькі гадоў прайшло, мама,
Як ты выйшла замуж?

— Здаецца, мой сынок,
Мінуў дзесяты гадок.
— А колькі гадоў вашым сваркам?
— Чарговае пытанне Марка.

## Цудоўны канцэрт Зміцера!

Нядаўна я і мае сябры з трэціх класаў гімназіі мелі нагоду пабываць на цудоўным канцэрце Зміцера Вайцюшкевіча. У Шчыты, у Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры, дзе адбыўся канцэрт, мы паехалі са старэйшымі сябрамі з Бельскага белліцэя. Калі я пачула, што ёсць магчымасць ужывую паслухаць песні Зміцера Вайцюшкевіча, рашыла ў адну хвіліну — еду!

Год таму я была на канцэрце і ён мяне захапіў.

На двары стаяў халодны, зімовы вечар, а мы з усмешкамі на тварах ехалі ў Шчыты. На месцы сустрэў нас спадар Ігар Лукашук. Пасля кароткага ўступу на сцэне з'явілася зорка — Зміцер Вайцюшкевіч. Яго мы прывіталі гарачымі апладысментамі. Мы пачулі яго песню пра шалікі, яна ўявіла нас у настрой калядных падарункаў. Не абышлося без вядомых усім песень — пра маму ці пра галоднага ваўка. Мы разам спявалі, было вельмі весела і ніхто не адчуваў нуды. Проста, не хацелася вяртацца ў Бельск. Але ж трэба было! Перад ад'ездам мы з'елі падрыхтаваны пачастунак.

Канцэрт жыве і гучыць у маёй памяці. Я і мае сябры часта яго ўспамінаем, ды чакаем новых канцэртаў і новых песень Зміцера Вайцюшкевіча.

**Аляксандра Зінкевіч,**
**Гімназія № 3 у Бельску-Падляшскім**

## Польска-беларуская крыжаванка № 6-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2-17:**

Звер, Сатурн, ствол, авар, крок, стары, айсберг, ох, баклажан. Воск, трава, вой, бокс, Серж, тэатр, вагон, ар, нарыс.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Вольга Кардаш, Тымэк Петручук, Міхась Тапалянскі** з Нарвы, **Наталля Кадлубоўская** з Градалёў, **Аляксандра Аніськевіч, Анна Кендысь** з КШ № 1 з Гайнаўкі, **Мартына Лукша, Кінга Леўша, Куба Анішчук, Аня Радзівончык** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Furora | Gardło | Mag / Gaj | | | | Ślinka |
| | Lek / Łąka | Siarka | | Wójt | | | | | |
| | Suwałki | | | | | | | | |
| Bohater | | | | | | Molo / Ania | | | |
| | Rój | | | | | | | | |
| Kartograf | | | | | | | | | |

# Калядкі Гродзеншчыны ў музеі

Калядкі і шчадроўкі колішняй Гродзеншчыны ў выкананні „Заранкі” з Крынак — першая аўтарская вечарына ў гісторыі калектыву. Дырэктар Музея Сакольскай зямлі Оля Плюта заўсёды гатова на супрацоўніцтва. Здаецца, у самой Саколцы тэма аховы тутэйшых традыцый не вельмі папулярная і партнёраў на такога тыпу праекты знайсці складана. Затое Крынкі ажно самі напрошваюцца. А то з праектамі школьнай бібліятэкі, а то з дзіцячай „Заранкай”. Пакуль што ў Крынках гэта адзіны калектыў, які штодзень займаецца роднай спадчынай. Вядома, шмат якім бацькам такія песні не даспадобы і ніколі не адпусцяць яны сваіх дзетак на заранкавую „індактрынацыю”. Дзякуй Богу, ёсць і іншыя, адважныя, без комплексаў, адкрытыя на людзей, ідэі, адукацыю. Толькі на такіх варта канцэнтравацца і аддаваць іх дзецям свой час і сілы. Ася Янкевіч — мама чацвёртакласніцы Улі, заранічнай ветэранкі, з ахвотай уключылася ў падтрымку паездкі калектыву ў музей. Папросту села і паехала з намі. Яе старэйшая дачка, прыгожая гімназістка Патрыцыя, сур'ёзна думае над кар'ерай калектыўнай флейтысткі. Пакуль што стала ініцыятаркай і вядучай заранічнага фейсбука. На канцэрт прыехала таксама цэлая сям'я трэцякласніцы Амэлькі Кукіш. Бацька, хаця стомлены працоўным днём, ніяк не змог адмовіць у падтрымцы дачцэ, якая прытым мела сваё сольнае выступленне. Як аказалася, не шкадаваў свайго рашэння. Прыемна захапіўся разнастайнасцю і багаццем рэпертуару. Папросту слухаў з зацікаўленасцю з пачатку да канца канцэрта. Дзякуй Богу, не заўважыў нават маіх памылак на акардэоне, якія здараюцца мне амаль пры кожным выступленні, вядома, ад вялікага хвалявання.

Хваляваліся і дзеці, асабліва тыя, якім прыйшлося спяваць сола на старажытнацаркоўнаславянскай мове. Лягчэй мелі выканаўцы беларускіх калядак і шчадровак. Там было ўсё зразумелае нават каталікам. На падкрынскіх вёсках ніхто ўжо не помніць беларускіх шчадровак. Таму рэпертуар прыйшлося ўзяць з маёй малой Бібліі пад загалоўкам „Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 тамах. Том 3. Гродзенскае Панямонне”, выдадзенай у 2006 годзе.





Так склалася, што быў гэта першы, але, здаецца, не апошні канцэрт нашага калектыўчыка ў музеі. Спадарыня дырэктар публічна запрасіла нас да далейшага супрацоўніцтва, а я абяцала прыехаць ужо на Вялікдзень з валакальнымі песнямі. Пры тым дачка спадарыні дырэктар вельмі захацела далучыцца да нас. Ёсць планы, што з вясны будзе прыязджаць з мамай на рэпетыцыі ў Крынкі. Як кажа спадарыня дырэктар, у Саколцы нічога падобнага няма. Яе маленькаму сынку вельмі спадабаўся акардэон. Хто ведае, можа вырасце калісь на сакольскага акардэаніста.

Але наша паездка ў Саколку завяршылася не адным канцэртам. Вялікім атракцыёнам аказалася двухгадзінная экскурсія па музейных залах. Большасць дзетак папала туды ўпершыню, таму аповеды спадарыні дырэктар слухалі з захапленнем. Мабыць, найбольш спадабалася ім калекцыя хатніх прылад. Для іх — спецыяльных гасцей — дазвалялася нават пагуляць у кухні. Што больш, спадарыня дырэктар падрыхтавала кароткія майстар-класы па тканні на сапраўдных кроснах. Была таксама магчымасць пазнаёміцца з тэхнікай выканання саламяных павукоў. Рабілі іх там якраз пасля канцэрта сакольскія жанчыны з музейнага рукадзельнага гуртка. З майго боку



выйшла ініцыятыва правядзення павуковых майстар-класаў у нашай школьнай бібліятэцы, вядома пад кірункам спадарыні дырэктар. На жаль, у музеі не хапае саломы. Дзякаваць Богу, у Асі Янкевіч будзе салома, ёсць і сярпы. Падрыхтоўка пачынаецца некалькі месяцаў раней, а пакуль на Вялікдзень паспрабуем выканаць бібліятэчнага павука з гароху.

Вяртацца дахаты не вельмі хацелася, таму адправіліся мы на вячэру ў самы прыгожы рэстаран Саколкі. Добры настрой не адпускаў і ў зваротнай дарозе. Спявалі да самых Крынак.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# З Маркам у Градалі



Мець зносіны з **Маркам Карнілюком** проста цікава. Гэта шчыры, добразычлівы чалавек. Ахвотна дапаможа, падзеліцца сваімі генеалагічнымі дасягненнямі, навінкамі. Любіць людзей. Як магніт прыцягае іх да сябе, асабліва незвычайных.

У прыгожым, выгадным аўтамабілі спадара Сцепанюка камплект пасажыраў. Між імі і я з Маркам. Едзем у Градалі. Якасны гук гітоў славянскіх народаў не перашкаджае ў размове.

Усе пасажыры родам менавіта з Градалёў. Вельмі яны зацікаўлены сваім прошлым. Расказваюць гісторыі, перададзеныя бацькамі і дзядамі. Генеалагічная сустрэча з Маркам вельмі для іх важная. Пры нагодзе наведаюць блізкіх, якія ўжо іх там чакаюць.

— Ведаеш, адкуль у Градалях узялося слова «кацап»? — пытаюць. — Калі будавалі тут жалезную дарогу шмат рабочых прывезлі з Расеі. Тады нашы называлі іх маскалямі. Яны шмат выпівалі, наводзілі беспарадак. За гэта іх не любілі і празывалі кацапамі, а пасля перайшло гэта на праваслаўных.

Калісь, яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай, расіян не было тут шмат, — гаворыць Марк, — і займаліся яны незвычайнымі прафесіямі, у тым ліку паказамі дрэсіраваных мядзведзяў.

Гучыць неверагодна, быццам стужка Андрэя Таркоўскага.

— Чым цяпер папулярны Градалі? — пытаю

— Дыназаўрамі, — адказваюць паўсур'ёзна.

Праўда, бачу іх уязджаючы ў вёску. Тры вялікія зверы страшаць на адным з падворкаў. Парк юрскага перыяду — мясцовы турыстычны атракцыён. Гэта ўжо таннае амерыканскае кіно з папкорнам.

— Можна іх паглядзець нават у інтэрнэце, — дадаюць.

Але найбольш славы вёсцы прынесціць Зянон Мартынюк з калектыву «Акцэнт». На жаль, на генеалагічнай сустрэчы Зэнэк не паявіўся. Мясцовыя старажылы сказалі, што паехаў на гастролі ў Закапанэ.

А зноў у сямідзясятых гадах дваццатага стагоддзя Градалі славіліся саламянымі матамі ў розных варыянтах: зялёным, каленчатым, дашчаным, рагожа і са спецыяльна скошанай саломы. Выконвалі іх па заказе Цэпэліі. Запатрабаванне было вялікае, а і плацілі някепска. Усе жанчыны ў вёсцы гэтым займаліся. На саламяных матах вырасла цэлае пакаленне градалян, у тым ліку Зэнэк Мартынюк. У Градалях у клунях вісяць яшчэ спецыяльныя кросны. Ткалі па вечарах, збіраліся па дзесяць гаспадынь у адной хаце, пілі гарбату, гутарылі. Часта прыходзіў туды малады Сяргей Лукашук. Запісваў іх на магнітафон, паціху, каб ніхто не прыкмеціў. Потым ім гэта пускаў. Надта здзіўляліся, усё роўна як нейкім чарам.

Віктар Сцепанюк расказвае мне пра каплічку святога Юрыя. Пабудавала яе ў шасцідзясятых гадах мясцовая жанчына, дарэчы, прабабуля Зэнка Мартынюка. Звалі яе Матвэрыха. Роды яна прымала. Непадалёк Градалёў з пяску пад соснамі выплывала крыніца і яна хадзіла туды па ваду для родаў. Пасля выкапалі там калодзеж і паставілі каплічку.

Даязджаем да святліцы. Хлопцы рыхтуюць тэхніку, падключаюць мікрафоны. Аказваецца, градалёўскія калонкі запраграмаваны на песню «Белым снегам» гурта «Прымакі». Відаць, яны бліжэйшыя целу, чым польская кашуля Зэнка.

Марк хваліцца сваёй новай знаходкай — спіс жыхароў вёскі з 1816 года. Распавядае пра рассеяных па свеце градалян, з якімі наладзіў кантакт, у тым ліку пра Карпа Пракапюка, які ў 1946 годзе пераехаў у Расею. Карпаў унук жыве цяпер у Аўстраліі.

Пра Карпа гавораць таксама сваякі Сцепанюкоў, да якіх пападаем пасля афіцыйнай сустрэчы. Прапануюць наладзіць чарговую генеалагічную сустрэчу, у гэты раз цёплай вясной і з кошычкамі.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# Яшчэ пра Віктара Ярмалковіча

Добра, што Уладзімір Хільмановіч у «Ніве» ад 8 студзеня прыгадаў Віктара Ярмалковіча з нагоды сотай гадавіны з дня нараджэння. Прадставіў яго ў рубрыцы «Дата з календара». Калі б гэта было ў іншым месцы, можна было б гэта даравацъ без каментарыяў. Але калі «дата з календара» і «100 гадоў з дня нараджэння», дык варта ўсё ж такі падумаць над той датай ці днём. Справа ў тым, што пра блытаніну з «датай», ці як хто хоча — «днём» нараджэння я пісала на старонках «Нівы» 20 студзеня 2008 г. Здавалася б, паяснілa як трэба і больш ніхто памыляцца не будзе. А тут раптам далей усе тыя ж самыя памылкі. Гэта доказ на тое, што «Ніву» не чытаюць нават яе аўтары і рэдактары, ці недавер да аўтаркі ўдакладненняў? Зірнула ў інтэрнэт — а там такая ж інфармацыя — нарадзіўся 4 студзеня 1917 г. Паколькі сіла інтэрнэту непараўнальная з маёй, ды да таго дзевяцігадовай даўнасці, у Гародні ды Лідзе адзначаліся 100-ыя ўгодкі нараджэння Віктара Ярмалковіча з напамінам пра дату нараджэння...

І яшчэ — не ведаю, хто першы «памясціў» яго родныя Юшкі ў цяперашнім Астравецкім раёне ў Беларусі. Мне здавалася, што звесткі пішуць краязнаўцы, якія павінны ведаць перад усім геаграфію. Такую памылку дапусціў у «Ніве» і Уладзімір Хільмановіч. Юшкоў, на жаль, не знойдзе ён у Астравецкім раёне, хоць бы не ведаю, як іх шукаў бы. Родная вёска Віктара Ярмалковіча знаходзіцца ў Літве ў Табарышскай парафіі, недалёка мястэчка Тургелі. А калі дакладна — гэта Віленская акруга, Салечніцкі раён. Думаю, любому краязнаўцу варта туды выбрацца, бо там — як пішуць палякі — 80% палякаў, рэшта літоўцы і крыху беларусаў і расейцаў. Магчыма, сям'я Ярмалковічаў была адзінай беларускай сям'ёй на ўсю ваколіцу, але як распавяла некалі дачка Язэпа Ярмалковіча (брата Віктара) — Рэгіна, якая жыве ў Вільні, «ксяндзы нас там усё апалячваюць і апалячваюць, а людзі ўсё па-беларуску гавораць».

Далей: Віктара Ярмалковіча арыштавалі не ў пачатку 1939 г, а толькі ў ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1939 г. Каб гэта даказаць, хопіць зазірнуць ва ўспаміны Віктара Ярмалковіча, апублікаваныя ў кнізе «Лёс аднаго пакалення» (Беласток 1996). На с. 171 чытаем: «Даязджаючы да Вільні, у старане Парубанка, заўважалася нешта незвычайнае. Гудзелі самалёты, чуваць было ўзрывы. Я здагадваўся, што хіба пачалася вайна». Палякі заперлі яго разам з іншымі вядомымі беларускімі дзеячамі ў славутую Картуз-Бярозу, скуль быў вызвалены пасля 17 верасня 1939 г. Амаль тры тыдні хапіла, каб зведаць здзекі польскай турэмнай сістэмы. Варта ўчытацца і далей у тыя ўспаміны, каб карэктаваць біяграфію Віктара Ярмалковіча па драбніцах — дзе і калі працаваў і ў якой атмасферы. «Бамбардаванне горада», якое перажыў у Варшаве было ў сапраўднасці Варшаўскім паўстаннем. Перажылі яго не толькі Ярмалковічы — пра жахі паўстання, між іншым пра голад, расказвала мне жонка Віктара — Аўгіння.

Калі ідзе пра ўспамін пра Віктара Ярмалковіча на старонках «Нівы», варта перш за ўсё згадаць пра тое, што быў ён яе пастаянным чытачом і падпісчыкам (пасля яго смерці падпіску прадаўжала яго жонка), але і карэспандэнтам, падпісваючыся прозвішчам сваёй маці: Станулевіч. Неапублікаваная багатая спадчына Віктара Ярмалковіча ўсё чакае свайго часу на выданне. Можа «Ніва» захацела б яе выдаць? З павагі да сям'і Ярмалковічаў я з ахвотай дапамагу ў гэтай справе. Трыццатыя ўгодкі смерці Віктара Ярмалковіча не за гарамі, бо выпадаюць таксама ў гэтым годзе — 15 снежня. Варта дадаць, што на надмагільным помніку ў Біскупцы-Рэшэльскім цікавы, часткова беларускамоўны надпіс з парафразай верша Віктара Варашыльскага «Мова» і бел-чырвонабелы паясок, а дата нараджэння Віктара Ярмалковіча пададзена 23 снежня 1916 г., бо такая дата была ў ягоных дакументах.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

Фота з архіва Аляксандра Ярмалковіча


KURATORIUM OKRĘGU SZKOLNEGO
PAŃSTWOWA KOMISJA EGZAMINACYJNA
ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI


Poza tem uzyskał ... ostatnie oceny roczne w klasach VI—VIII


UNIWERSYTET STEFANA BATOREGO
KSIĄŻECZKA LEGITYMACYJNA


UNIWERSYTET STEFANA BATOREGO
NOS RECTOR
DECANUS COLLEGII PROFESSORUM
CIVIUM UNIVERSITATIS VILNENSIS


Жэня Кандратовіч, Зіна Яновіч, Віктар Ярмалковіч. Крынкі 25.09.1938 г



# Вуліца Лукі Дзекуця-Малея ў Беластоку?

Яўген Вапа натхніў мяне да водгуку на яго галоўнарэдактарскі фельетон у «Ніве» ад 25 снежня 2016 г. Пры нагодзе віншую думкі звязанай з сёлетняй ілюстрацыяй «ніўскага» календара. Яўген Вапа па адукацыі гісторык і нават дзіўна было б, калі б не звярнуў увагі на 500-годдзе выдання Францішкам Скарынам Бібліі. Мяне крануў напамін пра перакладчыка Новага Запавету і Псалмоў Луку Дзекуця-Малея (1888-1955), які таксама прадстаўлены сярод «біблеістаў» на календары. Цешуся, што дзеля справы прыдаліся і мае шматгадовыя доследы.

З 1999 г., калі я знайшла магілу Лукі Дзекуця-Малея ў Гданьску, мінула шмат часу. Тады я якраз ужо год працавала на Кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. Адкрыццё магілы Лукі Дзекуця-Малея на Гарнізонным могільніку ў цэнтры Гданьска было нечаканае і для мяне самой. Найважнейшым было тое, што знайшла я і сям'ю яго сына Данілы ў Гданьску, з якой сябрую па сёння і яшчэ супольна з Альжбетай Дзекуць-Малей усё нешта адкрываем пра яе дзеда. Калі я пісала ў 1999 г. пра Луку Дзекуця-Малея ў «Ніве», няшмат ведала пра яго пасляваенны лёс. Зараз вядома мне многа больш, дзякуючы новым знаходкам. Паводле архіўных дакументаў вядома, што ў 1949-1952 гг. быў баптысцкім прапаведнікам у Беластоку. Раз ці два разы ў месяц ездзіў з Беластока ў Гданьск да сям'і. На жаль, па розных прычынах не ўдалося Луцэ Дзекуцю-Малею даўжэй застацца ў Беластоку, не ўдалося атрымаць кватэры, каб у Беласток пераехала ўся сям'я. Прыйшлося вярнуцца назад у Гданьск і тут спачыць навечна.

Здаецца, праз гады імя Лукі Дзекуця-Малея з'явілася ў беларускай гістарычнай свядомасці нават у нас, на Беласточчыне, асабліва як арганізатара беларускай школы ў Крынках у 1918 г. (захаваўся яе здымак),




пра што я мела нагоду распавядаць у тых жа Крынках у будынку той жа школы. Памятаюць яго асабліва баптысты на Беласточчыне, сярод якіх ёсць і былая журналістка «Нівы» Вера Валкавыцкая. Гэта яна першая ў 1999 г. адгукнуся на мой артыкул і паказала здымкі з сямейнага архіва, на якіх яе бацькі і яна сама разам з Лукой Дзекуцем-Малеем.

Нам, беларусам і баптыстам у Гданьску ў 2007 г. удалося супольна ўшанаваць памяць Лукі Дзекуця-Малея, прапануючы ўладам Гданьска назваць вуліцу яго імем, што і адбылося 25 сакавіка 2007 г. Падумала я, а чаму б у Беластоку не назваць адну з вуліц яго імем? Там служыў прапаведнікам пасля вайны, а раней — служачы ў царскай арміі ў Беластоку — упершыню сустрэўся з баптыстамі і ў навагоднюю ноч з 31 снежня на 1 студзеня 1912 г. прыняў хрост у рацэ Супрасль.

Прэзідэнт горада Гданьска Павал Адамовіч, які ў 2007 г. прадставіў Радзе горада праект пастановы аб прысваенні вуліцы імя Лукі Дзекуця-Малея, аргументаваў, між іншым, наступным чынам: «Nadanie ulicy jego imienia przyczyni się do wzmocnienia atmosfery ekumenizmu oraz poszanowania mniejszości narodowych i religijnych w Gdańsku». Рада праект прагаласавала аднагалосна. Дзякуючы ўладам Гданьска на сесіі прамаўлялі сын Лукі Дзекуця-Малея, Даніла, і я — ад імя беларусаў.

Зараз, калі ў Беластоку мяняюцца назвы вуліц, можа варта «Ніве» разам з іншымі беларускімі арганізацыямі выступіць з такой шляхетнай ініцыятывай. Гэта парадокс усё ж такі, што вуліца Лукі Дзекуця-Малея ёсць у Гданьску, а няма ў Беластоку, Гродне ды Брэсце. Найвышэйшы час, каб выступіць з такой прапановай.

У 2007 г. магістарскую працу пра свайго дзеда абараніла на Гданьскім універсітэце Альжбета Дзекуць-Малей. Можа таксама варта было б яе выдаць, каб постаць Лукі Дзекуця-Малея — беларускага нацыянальнага героя і перакладчыка Біблії на беларускую мову стала больш вядомай у нашым асяроддзі.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

Lidskae Beer Master

# http://lidskae.by

Піва на нашых землях пілі здаўна. І хоць найбольш якасным традыцыйна лічыцца нямецкае ці чэшскае піва, сучасныя тэхналогіі броварства дазваляюць ствараць нягоршыя пенныя напоі і беларусам. З пачаткам існавання самастойнай беларускай дзяржавы адным з лідараў піўной галіны стала піва, што гатуюць у горадзе Ліда і адпаведна носіць назву „Лідскае". Доўгія гады ў лідскім бровары нібыта не заўважалі, што жывуць у Беларусі — уся прадукцыя пазначалася выключна рускай мовай. Але сітуацыя змянілася на пераломе 2016-2017 гадоў — „Лідскае" пераявяло на беларускую мову не толькі свой сайт, але і яго адрас у інтэрнэце. Калі раней віртуальнае прадстаўніцтва лідскага бровара месцілася па адрасе lidskoe.by, то цяпер, нават набраўшы яго, інтэрнэт карыстальнік будзе перанакіраваны на адрас **http://lidskae.by**.

Новы сайт першай справай запытваецца ў карыстальніка, ці мае ён ужо 18 гадоў. Пры гэтым, які адказ абярэ карыстальнік розніцы няма — у кожным разе ён апынецца на адной і той жа галоўнай старонцы. Такім чынам дадзенае зацікаўленне „Лідскага піва" аб узросце карыстальнікаў трэба разглядаць як своеасаблівае сацыялагічнае апытанне, а не ўзгадку пра тое, што піць піва непаўналетнім забаранецца.

Галоўная старонка сайта адразу распавядае з чаго і з каго пачыналася ўсё броварства ў Лідзе. Годам нараджэння завода лічыцца 1876 год, калі мясцовы мешчанін Носель Зелікавіч Пупко будуе піўны завод на ўласным участку. Пра гэта распавядаецца на старонцы сайта, на якую можна выйсці з галоўнай, „клікнуўшы" на загаловак анонса „гістарычнага" паведамлення. Далей можна выйсці на старонку, якая прадстаўляе ўсю гісторыю бровара ў выглядзе вертыкальнай храналагічнай прамой з пазначанымі важнымі этапамі яго станаўлення. Акрамя таго, тыя ж важныя даты пазначаны і на галоўнай старонцы — на стужцы, якую можна прасоўваць злева направа. З апошніх гадоў найбольш цікавым падаецца 2016 год, „у якім „Лідскае" пачынае размаўляць па-беларуску". Праўда, правільней было б казаць „зноў пачынае", бо нават згодна з пададзенай храналагічнай інфармацыяй, беларускамоўныя этыкеткі „Лідскае піва" з'яўляліся яшчэ ў 1994 годзе.

Дарэчы, аб пераходзе на беларускую мову лідскія півавары пачалі думаць з лістапада 2015 года. Пра гэта сведчыць запіс на старонцы бровара ў Facebook. „За апошнія некалькі дзён мы атрымалі шэраг лістоў з прапановамі выкарыстоўваць беларускую мову ў камунікацыі нашага прадпрыемства. (...) Колькасць людзей, зацікаўленых у тым, каб беларуская мова выкарыстоўвалася ў рэкламе, нашмат больш, чым нам уяўлялася раней, попыт на яго ёсць. Мы пачулі нашых спажыўцоў і абяцаем разгледзець пытанне аб з'яўленні беларускай мовы ў прасоўванні нашай прадукцыі", — распавядалася там.

І вось у студзені 2017 года прадпрыемства абнавіла свой карпаратыўны сайт, які на дадзены момант выключна беларускамоўны. „Новы сайт будзе развіваць нашу карпаратыўную сацыяльную місію па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў кампаніі і за яе межамі. Усяго ў сайта будзе тры моўныя версіі: руская і англійская запрацуюць у лютым", — цытуе дырэктара па маркетынгу ААТ „Лідскае піва" Ірыну Капілову гарадзенскі сайт s13.ru.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Галоўны музей Беларусі на розных этапах

# 60 гадоў з дня заснавання

## Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі

Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь — адзін з найбольш папулярных музеяў Беларусі. У яго фондах захоўваецца самая вялікая музейная калекцыя ў Беларусі — каля 400 тысяч адзінак захоўвання. У яго структуру таксама ўваходзяць 5 філіялаў — Музей гісторыі беларускага кіно, Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, Дом-музей І з'езда РСДРП, Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, Музей прыроды і экалогіі Беларусі.

Нацыянальны гістарычны музей цягам сваёй гісторыі неаднаразова мяняў назву. Свой пачатак ён бярэ з Мінскага абласнога музея, заснаванага ў 1919 г. У 1923-1930 гг. музей называўся Беларускім дзяржаўным і з'яўляўся цэнтральным музейнай установай БССР, у 1930-я гг. — Мінскім сацыяльна-гістарычным, у 1941-1944 гг. — Мінскім гістарычным. У 1957 г. (*ад гэтай даты адлічваецца цяперашні юбілей*) установа была аднойлена пад назвай Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей, а ў 1964 г. ён атрымаў назву — Дзяржаўны музей БССР. Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1992 г. музей чарговы раз быў перайменаваны ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. У 2009 г. установа атрымала цяперашнюю назву.

Яшчэ з сярэдзіны 1940-х гг. існавала меркаванне пра неабходнасць адраджэння Беларускага дзяржаўнага музея. Аснову пачатковага фонду будучага музея ў 1950-я гады складалі прадметы, што засталіся ад даваеннага Беларускага дзяржаўнага музея (карты, музычныя інструменты, харугвы) і Беларускага музея Івана Луцкевіча ў Вільні. На дадзены момант у фондах Нацыянальнага гістарычнага музея знаходзіцца больш за 1500 адзінак музейных прадметаў з Віленскага музея. Гэта дакументы, паштоўкі, творы графікі, жывапісу, скульптуры, абразы, а таксама штампы і пячаткі беларускіх устаноў і арганізацый першай чвэрці XX ст.

Збіральніцкая дзейнасць актывізавалася пасля стварэння Арганізацыйнай групы па арганізацыі Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея 15 снежня 1956 г. У фонды будучага музея перадаваліся рэчы з зачыненых цэркваў і знойдзеныя скарбы. Зараз у фондах Нацыянальнага гістарычнага музея знаходзяцца 117 манетных скарбаў — гэта самая вялікая і значная калекцыя ў Беларусі.У выніку першага пяцігоддзя работы была сфармавана фондавая калекцыя. На 1 студзеня 1961 г. агульная колькасць прадметаў склала 38 тыс. адзінак. Пачынаючы з 1962 г. галоўная ўвага Арггрупы была звернута на падрыхтоўку экспазіцыі: складаліся тэматыка-экспазіцыйныя планы, ствараліся карты, схемы, табліцы, дыярамы, пісаліся навуковыя даведкі. На 1964 г. у фондах налічвалася 108 тыс. адзінак захоўвання.

Афіцыйнае адкрыццё музея адбылося ў 1967 г. Яго экспазіцыя была размешчана ў 18 залах. Экспазіцыя з тых часоў часткова мянялася тройчы: у 1977, 1982 і 1993 гг. Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь музей двойчы мяняў сваю назву. У 1992 г. музей планаваў правесці поўную рээкспазіцыю. Упершыню меркавалася пазбавіць пастаянную экспазіцыю палітызацыі і ўладкаваць яе ў адпаведнасці з беларускімі нацыянальнымі акцэнтамі. Аднак з-за недахопу фінансавання яна не была рэалізавана.

У 2008 г. зацверджана навуковая канцэпцыя новай стацыянарнай экспазіцыі. У 2012 г. завершана праца над тэматыка-экспазіцыйным планам. Штогод музейны збор павялічваецца прыблізна на 2-3 тыс. адзінак захоўвання.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі бюджэт

Сёлетні бюджэт Чаромхаўскай гміны складае суму 13 360 000 зл. на баку прыбыткаў і 14 364 600 зл. на баку выдаткаў. Дэфіцыт 1 004 600 зл. будзе пагашаны наступным чынам: 272 000 зл. з вольных сродкаў і 732 000 зл. з банкавага крэдыту. А вось як радныя рашылі размеркаваць грошы на вызначаныя задачы. На абслугу водаправодна-санітарнай сеткі прызначана 524 251 зл., мадэрнізацыю і ўтрыманне публічных і гмінных дарог — 3 261 600 зл., турызм — 7 000 зл., жыллёвую гаспадарку — 150 400 зл., публічную бяспеку і пажарную ахову — 50 097 зл., добраахвотную пажарную каманду — 43 597 зл. На адукацыю прызначана 3 237 363 зл., у тым ліку на пачатковую школу — 1 420 253 зл., дзіцячы садок — 460 063 зл., гімназію — 967 402 зл., прывоз вучняў у школу — 194 782 зл., дабаўку да харчавання — 70 000 зл., на грамадскую палітыку і сацыяльную дапамогу — 3 360 628 зл., на ахову здароўя — 62 000 зл., гаспадарку адходамі — 305 000 зл., вулічнае асвятленне — 179 090 зл.; на культуру і ахову народнай спадчыны — 527 500 зл., у тым ліку Гмінны асяродак культуры і святліцы — 260 000 зл., бібліятэкі — 75 000 зл., фізкультуру — 95 000 зл. і спартыўныя аб'екты — 23 500 зл.

У рамках гмінных інвестыцый намечаны дзве асноўныя задачы: перабудова гміннай дарогі Чаромха-Станцыя — Чаромха-Вёска (кошт задачы — 3 000 000 зл.) ды выкананне тэхнічнай дакументацыі і прыстасаванне будынка на патрэбы святліцы ў Зубачах — 196 000 зл. Апошнія чатыры задачы тычацца выканання тэхнічнай дакументацыі для санітарнай каналізацыі ў Чаромсе-Вёсцы — 65 500 зл., дарогі (вуліцы Вішнёвай і прылеглых вулачак) — 147 600 зл., на дадатковыя пункты вулічнага асвятлення — 40 000 зл. і выкуп будаўнічых участкаў пад дарогу — 59 500 зл.

# Змаганне за кліента

Аператары мабільнай сувязі змагаюцца за кліента. З пачаткам студзеня аб'явілі акцыю рэгістрацыі мабільнікаў на карту. Хто такога абавязку не выканае ў назначаны тэрмін, дык не зможа ў далейшым карыстацца такім відам паслугі. Я зарэгістраваўся ў аператара Оранж, затым прад'явіў заяву пакарыстацца прамацыйным бонусам. Атрымаў зразу тысячу злотых на рахунак, якім магу карыстацца на працягу трыццаці дзён з прамацыйных сродкаў на размовы і СМСы да ўсіх. Карысная прыманка. Шкада, што ў назначаны тэрмін (30 дзён) не змагу выкарыстаць нават дзясятай часткі таго, што атрымаў у падарунку. Але на бязрыб'і і рак рыба, — кажуць у народзе. Дарэмнаму каню ў зубы не заглядаюць...

**(ус)**

# Высечка дрэў і кустоў без дазволу

Лясы займаюць каля 14% плошчы Арлянскай гміны, г.зн. 2260 гектараў. Апошнімі гадамі расце лік шыпулькавых дрэў у населеных пунктах, а прычынілася да гэтага нейкая мода на пасадку іглістых дрэў вакол дамоў. Цікавае, на жаль, і тое, што людзі амаль перасталі садзіць фруктовыя дрэвы. Хваёвыя дрэвы і туевы жываплот растуць вельмі хутка і ствараюць шмат праблем. Дзеля іх высечкі трэба было атрымаць дазвол з гміны і чакаць яго каля двух месяцаў.

Паводле інфармацыі з Гміннай управы, на высечку дрэў у 2014 годзе былі пададзены 196 заявак (182 адобраны), у 2015 годзе 179 (169) і ў 2016 годзе 145 (17 адобраны). Адзін працэс у 2015 годзе налічэння аплаты за нелегальную высечку быў скасаваны. У 2014 і 2015 годзе не дазволена па адной высечцы дуба і ў 2016 годзе двух дубоў.

1 студзеня 2017 года ўзаконіліся новыя правілы аховы прыроды, датычныя высечкі дрэў і кустоў. У выніку змены закона не патрабуецца дазвол на высечку:

— дрэў або кустоў, якія растуць на грунтах уласных фізічных асоб і высякаюцца з мэтай не звязанай з гаспадарчай дзейнасцю;

— дрэў або кустоў высечаных з мэтай рэкультывацыі сельскагаспадарчых угоддзяў;

— кустоў або іх зборышчаў плошчаю да 25 квадратных метраў;

— дрэў, якім у абхваце на вышыні 130 сантыметраў не больш за:

— 100 сантыметраў у выпадку таполі, вярбы, каштана, клёну, белай акацыі ды платана;

— 50 сантыметраў у выпадку апошніх дрэў.

У выніку змены закона не спаганяецца аплат за высечку:

— дрэў, якім у абхваце на вышыні 130 см не больш за:

— 120 см у выпадку таполі, вярбы, каштана, клёну, белай акацыі ды платана;

— 80 см у выпадку апошніх дрэў

з мэтай вяртання аблогаў да іншага чым сельскагаспадарчае выкарыстанне;

— кустоў або іх зборышчаў плошчай да 50 квадратных метраў з мэтай вяртання аблогаў да іншага чым сельскагаспадарчае выкарыстанне.

Змена закона абрадавала людзей. Зэканоміць гэта таксама працу гмінных чыноўнікаў, якія што і раз мусілі падавацца на месца заяўленага дрэва. Людзей заўсёды бударажыла пытанне: «Як гэта: сам пасадзіў дрэва, а не магу яго высечы?» Зараз будзе нармальней, хаця надалей нельга высякаць г.зв. шляхетных парод дрэў.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Агляд калядоўшчыкаў у Нараўцы

У Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся агляд калядоўшчыкаў. Удзельнічалі ў ім салісты, дуэты, трыо, квінтэты, калектывы і хары з Нараўчанскай (Нараўка і Старое Ляўкова) і Міхалоўскай (Гарбары і Новая Воля) гмін ды з Гайнаўкі. Ахвотных спяваць калядкі было многа. Некаторыя з іх выйшлі на сцэну ў цёплай зімовай вопратцы, між іншым, у кажушках і куртках, у цёплых чырвоных шапках, якія носяць Дзяды Марозы, са звяздамі (сёлета было іх мала) і да таго яшчэ з фанарыкамі. Дзяўчаты завязалі на галовы колішнія чырвоныя і белыя хусткі-шаліноўкі ва ўзоры. Спявалі калядкі новыя і колішнія на беларускай і польскай мовах.

Сярод наймалодшых каляднікаў першае месца занялі вучні трэцяга класа пачатковай школы ў Нараўцы. У катэгорыі вучняў чацвёртага, пятага і шостага класаў першае раўнапраўнае месца занялі шосты клас пачатковай школы ў Нараўцы і дзіцячы хор Праваслаўнай парафіі ў Нараўцы. Сярод маладзёжных малых вакальных груп першынство заваяваў дуэт Магдалена Вайцешык і Дамініка Сухадола з першага класа гімназіі ў Нараўцы. У катэгорыі дарослых першае раўнапраўнае месца занялі жыхары Дома сацыяльнай дапамогі ў Гарбарах, хор Праваслаўнай парафіі ў Нараўцы і квінтэт з калектыву „Нараўчанкі" з Нараўкі.

У перапынку выступіў дзіцячы танцавальны калектыў „Ладушкі" з Пружан (Беларусь).

Выканаўцы калядак, якія занялі першае, другое і трэцяе месцы, атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

**(яц)**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. напрыклад, Арэса, Вісла або Дунай, 2. перыядычны пад'ём узроўню адкрытага мора, 3. раённы горад на рацэ Арэсе, 4. браслаўскае возера, 5. злы дух у біскаўсходняй міфалогіі, 6. збожжа на хлеб, 7. паднімаецца цераз комін, 8. адзінка электрычнага супраціўлення, 9. літаратурнае прозвішча Кандрата Атраховіча, беларускага байкапісца (1896-1991), 10. паведамленне аб планаваным мерапрыемстве, ранейшая аб'ява, 11. абследаванне, інспектаванне, праверка, напрыклад — абрадавых калектываў, 12. чырвоная дата ў календары, 13. дакумент, які дае права, напрыклад, на праезд поездам, 14. пякучая расліна, у якой ... піва.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | 3 | | | | | 4 | | |
| 5 | | | 6 | | | | 7 | | | 8 | 9 | | |
| | | | | | | | 10 | | | | | | |
| 11 | | | 12 | | | | | 13 | | | | | 14 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Будзень, гол, дзед, дно, дуга, попыт, сын.

Рашэнне: **Студзень пагодны — год будзе плодны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 05.02 — 11.02

**(22.03. — 20.04.)** Наладзіш важныя і цікавыя знаёмствы. Чэрпай з жыцця поўнымі жменямі, але не забывай, што на свеце ты не адзін. Рэгенерацыя арганізма, але таксама многа энергіі і ахвоты да дзеяння. Марс адкрые табе многа дзвярэй і магчымасцей; выкарыстай іх — удачы маеш гарантаваныя. Ніхто табе не адмовіць. Не бойся стаміцца.

**(21.04. — 21.05.)** Цяпер не час на вялікія амбіцыі. Пашукай хутчэй таго, што цябе супакойвае і дае прыемнасць. Можа, цяжка будзе захаваць халодную кроў, дык знайдзі адступленне — сустрэчы з сябрамі, паездкі (але не раскідвайся грашыма). Можаш цяпер мець менш самаўпэўненасці, але не адмаўляйся ад рэалізацыі сваіх праектаў. Стрэс расходзі на вуліцы.

**(22.05. — 22.06.)** Прыліў энергіі. Выкарыстай спрыяльны зорны час і памяняй тое, што табе не падыходзіць. 10 і 11.02. можаш знайсці сабе пратэктараў і спонсараў. 9-11.02. сумееш распусціць лёд чыйгосьці сэрца. На працы будзеш распрацоўваць новыя канцэпцыі. А і работа, і грошы будуць ляжаць проста на вуліцы — толькі працягнуць руку. Стартуй у конкурсах, шукай фінансавання. Можа прытрапіцца яшчэ і выйгрыш? (Увесь такі люты!).

**(23.06. — 23.07.)** Аддыхаешся ад праблем. Адчуеш, што тваё жыццё ідзе ў добрым напрамку. 11.02. прыцягнеш да сябе мноства сяброў. Але ж увесь люты перад табою — час нялёгкіх рашэнняў. Глядзі сэрцам. Добрыя весткі дома. На працы вельмі пільнуй сябе, каб не зрабіць памылак (будуць глядзець табе на рукі!). Упарадкуй дакументы, скончы старыя праекты. Не ўключайся ў інтрыгі. Слухай музыку.

**(24.07. — 23.08.)** Усё будзе ісці паводле твайго плана. Выдатны настрой гарантаваны. 7-11.02. можа да цябе прыйсці азарэнне і абсалютна новыя ідэі. Будзеш мець свае пяць хвілін, а нават і болей. Будуць нагоды для радасці і гонару. У пачуццях здзяйсненне мар. Працягні сябру руку на згоду. Вельмі добры час на працы. Не адкладвай важнага. З 10.02. (да 14.02.) будуць дадатковыя грошы; можа, выйгрыш? Памерай свой халестэрын.

**(24.08. — 23.09.)** Пара прыбраць у справах і дома. Планеты глядзяць на цябе без цікаўнасці, мусіш даць сабе рады сам. У каханні не вяртайся да старога, калі будучыня рыхтуе табе мноства цудоўных нагод. Хатняя мітусня супакоіць. З новымі абавязкамі справішся, намякні шэфу пра прэмію. Дзевы з трэцяй дэкады — нейкая фальшывая асоба схоча падкапаць вашу пазіцыю. Глядзіце, што падпісваеце. 11.02. — імпульс да дзеяння.

**(24.09. — 23.10.)** Жыццё здасца прыгажэйшым, а праблемы лёгкія для вырашэння. Больш свабоды. Баявіты настрой, але канфлікты падлагодзяць зоркі. Цярпліва пачакаеш сваіх шанцаў. Цікавыя, творчыя задумы, мноства інтэлігентных забаў. Папулярнасць у кампаніі, хаця старая жменька можа скараціцца. Поспехі падымуць цябе ў паветра як шарык, але будзь сціплым. Выпівай больш вады.

**(24.10. — 22.11.)** Не паддавайся сумненням. Праблемы часовыя, але неўзабаве для цябе засвеціць сонейка. Трэнні паміж табою і рэштай свету. Можаш адчуць, што цябе не разумеюць, крытыкуюць, нават і насміхаюцца. Адчакай! Бяспеку і ахову гарантуе на гэты час табе секстыль Плутона. На працы нервы, але будзеш сталёвы, зайграеш ва-банк. Усміхайся. 9-11.02. не забрыдзі са сваімі дзеяннямі ў тупік. Хаця ад 8.02. (аж да 20.02.) прытрапяцца карысныя прапановы — не прапусці іх!

**(23.11. — 22.12.)** 7-11.02. атрымаеш тое, чаго патрабуеш. Прыліў вены і задум паўплываюць не тое, што твае мары пачнуць урэшце здзяйсняцца. Не будзеш адзін. Дзейнічай, прабуй новага. Самотныя Стральцы будуць мець шчасце. Стральцы з трэцяй дэкады могуць рэзка пайсці ўверх у рэйтынгах. З 10.02. можаш знайсці пасаду мар або вельмі багаты заказ. Кінь каву і алкаголь, практыкуйся не толькі на «пілоце».

**(23.12. — 20.01.)** Не стаўся адмоўна да кіраўніцтва, і лепш не ідзі на размову ў чатыры вочы. Магчымыя канфрантацыі з ворагамі і перашкодамі лёсу. Расправішся з імі! Але чакае таксама выпрабаванне сяброўства. Знайдзі час на адпачынак. На рабоце мноства абавязкаў, прытым нялюбых. Разгрузі нервовасць і лішак энергіі на прыродзе.

**(21.01. — 19.02.)** Хопіць табе адвагі, адчуеш кліч прыгоды. Кожны твой рух прынясе прыбыткі. Мноства атракцыёнаў. Пазбудзешся праблемы з мінулага. У прафесіі будзеш майстрам. З 10.02. слава, папулярнасць, вядомасць.

**(20.02. — 21.03.)** Запал да працы прынясе неўзабаве вынікі. На праваронь нагод, бо лёс і людзі спрыяюць табе! Парадкі, завяршэнне спраў. Заробкі, але і выдаванне грошай. 6-11.02. знойдзеш сабе саюзнікаў. Схадзі на масажы, акупрэсуру.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

У лагодных хвалях Прыпяці адбіваліся васільковыя колеры неба. Я пабывала ў свеце, дзе гістарычныя месцы і асобы ўспрымалі на роўні з літаратурнай выдумкай і казкамі. Пра русалку Маўку, сімпатычна-трагічны персанаж міфалагічнай паэмы „Лясная песня" Лэсі Украінкі, народ гаварыў з падобнай верагоднасцю як пра князя Данілу Галіцкага. Іх абое ставілі ў прыклад выдатных сыноў (!) Валыні.

У такім міфалагічна-рамантычным духу асвятлялася вэтлаўскае гарадзішча XI-XIII стагоддзя, і што крок азначалі прыналежнасць да Кіеўскай Русі. У якасці доказу мела паслужыць здагадка пра даніну, якую мясцовыя князі прыносілі Кіеву. Не важна, што ў тагачасным свеце даніны і кантрыбуцыі лічыліся хлебам надзённым. Плацілі іх многія краіны Еўропы. Серабро, мёд, гарнастаевы шкуркі, шкляныя пацеркі і іншыя аздобы, дапамагалі спыніць агрэсіўныя паходы варвараў, гарантавалі на нейкі час спакой і незалежнасць.

У афіцыйнай гісторыі Вэтлаў хваравіта не хапала звестак пра сувязь з Тураўска-Пінскім княствам, да якога вёў просты і адвечны шлях па Прыпяці. Магчыма, да гэтага перыяду, адносяцца назовы ўрочышчаў: *Каплішча, Славна, Цэрквішча, Прыстань, Гарадзішча, Дубасіха, Мужчына, Нэсторова заплава, Астравок...*

* * *

Калі меркаваць па назовах, пасёлак быў поўнасцю падрыхтаваны на прыём купцоў і падарожнікаў са свету. Прыезджым прапанавалі рамонт лодак, смакавіты пачастунак з рыбы, дзічыны і мёду, тут жа арганізавалі начлегі і жыццёвыя ўцехі, ладзілі гандаль і абмен таварамі. Аскетаў і місіянераў чакалі месцы рэлігійнага культу. Верагодна, тут знаходзілася цудадзейная ікона Міколы Цудатворца, апекуна падарожнікаў па вадзе і сушы. Мясцовая царква па сённяшні дзень лічыць яго нябесным заступнікам. У народзе жыве памяць таксама пра Спасаўскую царкву, пра яе пакуль не знайшлі ні гістарычных паметак, ні дакументаў. Даследчык мясцовай гісторыі Косця Кірылюк не ўмеў аднесці царквы да канкрэтнага часу.

Слава і багацце гарадзішча, як кажуць легенды, прывабіла яцвягаў, якія набеглі і спляжылі мястэчка ды захапілі ў палон шмат людзей. У адказ мясцовыя князі, у саюзе з іншымі валадарамі, выпраўляліся на яцвягаў і літоўцаў, ды рабілі тое ж, што іх ворагі. Контратака вяртала зрабаванае багацце і наводзіла жаданую раўнавагу ў дэмаграфіі. Час Тураўска-Пінскага княства, калі меркаваць па каларыце легенд — залаты век Палесся. Мястэчку шанцавала больш чым іншым. Вэтлы шчасліва абмінула знішчальная навала манголаў. На цуд спрацавала рака, якая прывітала армію Батыя разводдзем і зманлівымі *драглямі*. Развіццё мястэчка ў ВКЛ гарантавалі дынастычныя сувязі, паколькі Вэтлы належалі Сангушкам, пародненым з самым каралём Ягайлам.

* * *

Лакалізацыю гарадзішча ў Вэтлах, мабыць, падыктавала сама прырода. У гэтым месцы назіраўся вялікі прыток вады на рацэ. Кіламетраў пятнаццаць раней, за сялом Шчытань, Прыпяць прымае ў сваё рэчышча вялікую раку Турыю. Па ёй дабіраліся купцы і падарожнікі з Валыні, Маравіі ды Вугоршчыны. У гэтым месцы яны сустракалі падарожнікаў са Скандынавіі, што па верхняй Прыпяці дабіраліся ў Пінск, Тураў, Кіеў ды нават сам Цараград. Частка з іх канчала свой маршрут у Вэтлах. Тут была магчымасць абмяняцца таварамі і адпачыць перад зваротнай дарогай. Тыя, што жадалі плысці да Дняпра, перасаджваліся на больш стабільныя лодкі і плыты. За Вэтламі чакалі іх незлічоныя меандры і агромністае возера Любязь, з трыма астравамі. Іншай перашкодай на шляху з'яўляліся вясновыя паводкі. Тады заціраліся берагі, а калі на ваду налягала імгла, лёгка было заблудзіцца ды пашкодзіць судны.



# У палескай глыбінцы (72)



Гарадзішча ў Вэтлах



Мост на Прыпяці

Сучасныя жыхары Вэтлаў, а такога нідзе няма на свеце, моцна сумуюць па паводках.

— Яшчэ ў часы, калі мае бацькі былі маладыя, рака разлівалася ў кожную вясну, — кажа Косця Кірылюк, на вока пяцідзесяцігадовы мужык. — Вада тры дні прыходзіла, тры дні стаяла і тры дні адыходзіла. Як гэта ўспрымалася? З энтузіязмам, падобным як прылёт буслоў! Гэта значыла, што будзе трава для жывёлы, размножыцца рыба ў ямках, а летам будзе дзе пакупацца.

* * *

Аднак не заўсёды паводкі трывалі дзевяць дзён. Як сведчаць крыніцы, у 1926 годзе вада ў заплаўной даліне стаяла ажно 333 дні. Магчыма, высокі стан вады на рацэ, быў выкліканы аварыяй каналаў, якія адводзілі нагрузку вады ў Днепра-Бугскі канал, пабудаваны яшчэ за царскіх гадоў. Заміранне Верхняй Прыпяці, якое паступае з году ў год, эколагі і гідролагі прыпісваюць менавіта нерамантаваным каналам.

— Уся вада паплыла ў Беларусь, — кажа Косця Кірылюк, — рэчка памірае.

Рэзкі працэс паніжэння вады пачаўся ў 1958 годзе, калі ваду ад Верхняй Прыпяці накіравалі па Белазёрскім гідравузле ў Днепра-Буг. Як успамінае адна мая герaіня, баба Іра з Невіра, капаць загналі калгаснікаў, у тым ліку жанчын. За працу, якая высмоктвала ўсе сілы, не плацілі грошай, а толькі значылі працадні. Многія прaктычна лінулі будоўлю, асабліва жанчыны, якім у вадзе па жывот прыходзілася махаць лапатай. Вынікі пабудовы па сённяшні дзень зганяюць сон з павек гідролагаў. Ужо ў 1970-1980 гадах вада на Верхняй Прыпяці, у наваколлі сяла Пачапы, амаль прапала. Яна паплыла каналам у Беларусь.

Вандроўка паўз берагі канала можа наклікаць горкі плач над прыродай.

Першы адрэзак няслаўнай гідрасістэмы на працягу 5,1 км складае Выжэўскі канал. Ён ідзе да возера Святога (яшчэ адно возера Святое!), адтуль кароткім каналам даўжынёй 1,1 км даходзіць да возера Валянскага. Пасля цягам 4,5 км па канале Хабарышча патрапляе ў вялікае возера Белае. Па дарозе перасякае стары нямецкі мост, які па сённяшні дзень выконвае свае задачы. Возера Белае належыць Украіне і Беларусі. Адтуль вада сцякае па Белаазёрскім гідравузле (яго даўжыня 18 км) і ўліваецца ў Днепра-Буг.

Гідрасістэма спрычынілася не толькі да адмірання Верхняй Прыпяці. Яна высмактала ваду з азёраў, першыя два — Святое і Валянскае ўжо пачалі зарастаць, а ў Белым, вада панізілася ў два разы. Разам знікаюць рэдкія віды балотнай фаўны і флоры. Голас абаронцаў прыроды ў гэтым закутку Палесся напамінае біблейскі кліч на пустыні. А тут не трэба перакідаць гор. Сітуацыю ў многім нармалізавала б праверка праходнасці вады на паасобных этапах гідравузла. Дзеля гэтага неабходны рамонт і расчыстка каналаў і паглыбленне старога русла Прыпяці. Усё пакуль адбываецца ў сферы планаў і праектаў, на канкрэтныя дзеянні не хапае грошай. Да гэтага даходзяць недаразуменні з беларускім бокам.

Два месяцы да майго прыезду ў Вэтлах пратэставалі супраць пабудовы Жыроўскага вадасховішча. Вадаём мае ўзнікнуць непадалёк возера Белага, у памежнай зоне, на тэрыторыі Беларусі. Людзі баяцца, што вадасховішча забярэ ўсю ваду з наваколля, высахнуць калодзежы і равы, у якіх яшчэ водзіцца рыба.

— Нашы дзяды жылі на вадзе, — паўтаралі ў Вэтлах, — а нам прыйдзецца жыць на голай пустыні і пясках.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960